РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 19 (74) 17 – 23 чэрвеня 1994 г. Кошт 150 рублёў

*Хочаш праўды і закону - голас свой аддай* **ЗЯНОНУ!** *Хацелі - за Кебіча, - атрымалася - за* **ПАЗЬНЯКА.**

*Польскае радыё: даведаўшыся аб закрыцьці* **"БЕЛАРУСКАЙ МАЛАДЗЁЖНАЙ",** *былі вельмі ўзрушаныя.*

*Рабочыя і інжэнеры былі шпіталізаваныя. Толькі тады зразумелі, які "прэзэнт" паслалі " айцу народаў".*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

# НЕВЯДОМЫ ПАЗЬНЯК

**Сёньня гэтыя два словы ўсё часьцей зьяўляюцца побач. Усё часьцей мы са зьдзіўленьнем пераконваемся, што вобраз Пазьняка, намаляваны хлусьлівай прапагандай, і рэальны Пазьняк, прыгожай душы чалавек і мудры палітык, - гэта розныя рэчы. Але міфы пра Пазьняка жывуць...**

**Гэтае інтэрв'ю нашага карэспандэнта з лідарам Беларускага Народнага Фронту, народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь якраз прысьвечана гэтым міфам.**

**- Спадар Зянон, Вашы, мякка кажучы, апанэнты ў самых розных варыяцыях не стамляюцца паўтараць: Пазьняк - паліцай, ці сын паліцая, ці ўнук паліцая. Адным словам - фашыст...**

- Мае карані на Іўеўшчыне. Там, у Суботніках, на маёй радзіме добра памятаюць фашыстаў, памятаюць і хто такія мой дзед і бацька, мае дзядзькі.

Дзеда майго, вядомага на Заходняй Беларусі хрысьціянскага дзеяча, які да верасьня 1939 года выдаваў газэту "Беларуская крыніца", забілі тыя фашысты, якія насілі скуранкі й чырвоныя зоркі на шапках. Бацьку забівалі двойчы. Тыя, якія прыйшлі з Захаду. Першы раз, калі на яго як на прыхільніка беларушчыны непрыяцелі навялі немцаў. Тады бацька быў паранены, але выратаваўся. Пасьля вайны я яшчэ доўга насіў у школу пінжак з зацыраванымі дзіркамі ад куль, якія тады трапілі ў майго бацьку. Другі раз на фронце. Выведгрупа, у якой ён служыў, не вярнулася з заданьня. Загінулі ўсе...

Дзядзька Ясь згарэў у танку ва Ўсходняй Прусіі 9 лютага 1945 года.

Дзядзька Янка, вывезены ў Нямеччыну, памёр у канцлагеры.

Матулю маю ад фашысцкіх куляў выратаваў Бог. І першы раз, калі акровец, ужо прыставіўшы пісталет да яе жывата (яна ў той час была цяжарная мною), ня здолеў выстраліць, бо маці спакойна глядзела яму ў вочы й моўчкі малілася Богу. І другі раз, калі ксёндз схаваў яе й яшчэ некаторых аднавяскоўцаў у падвале касьцёла. Каваныя жалезам дзьверы вытрымалі выбух нямецкай гранаты...

А хату нашу, і ўвогуле ўсю гаспадарку, фашысты спалілі...

**- Чаму ж Вы не зьвярнуліся ў свой час на паклёпнікаў у суд? Чаму зараз ня робіце гэтага?**

- Вышэйшы суд - Боскі суд. Акрамя таго, успомніце, што гэта былі за суды й што ў іх зьмянілася. Нарэшце, Пазьняку ёсьць што казаць людзям і без гэтага. Больш важнай лічу задачу адкрываць людзям вочы на дзеяньні ўчарашніх і сёньняшніх фашыстаў. Галоўнае ж, безумоўна, давесьці, што з ямы, куды яны нас завялі, мы можам выкараскацца. Дзеля гэтага ёсьць людзі, ёсьць адпаведныя праграмы...

Бачу свой абавязак у стваральніцкай працы. А камуна-гэбельсаўскі бруд да мяне не прыстае. Я веру ў Бога й сплю спакойна. Хлусьняры ашукалі ўвесь народ, але не закранулі чысьціні маёй душы.

**- Давайце зноў вернемся да Вашай біяграфіі. Даводзілася чуць: рабочы сцэны, фатограф, археолаг, а лезе ў прэзідэнты...**

- Перш чым стаць прэзідэнтам, кожны некім быў. Валэнса - электрыкам, Рэйган - актoрам... Але гэта добрыя палітыкі й іхняя дзейнасьць была надзвычай карысная для іхніх дзяржаваў. Справа ня ў рэгаліях і пасадах. Справа ў тым, што стаіць за імі.

Пералік, які Вы прывялі, можна працягваць і ў іншым накірунку, альбо пачаць з другога канца. Супрацоўнік Акадэміі Навук, старшыня Беларускага Народнага Фронту, лідар парляманцкай апазыцыі. За гэтым праўда пра Курапаты й Чарнобыль. Больш 50 распрацаваных намі законапраектаў, якія тычацца ўсіх галінаў жыцьця дзяржавы...

Сёньня ніхто ня можа сказаць, што Народны Фронт ці Пазьняк рабілі штосьці ня тое, ці іх прагнозы ня спраўджваліся. Мы ніколі яшчэ ня схлусілі ні сябрам, ні ворагам. Мы адзіныя, хто выйшаў на выбары з дакладна распрацаванай, абгрунтаванай і выверанай Эканамічнай праграмай.

Умацавалася й акрэсьлілася крэда Народнага Фронту, які на працягу ўсёй сваёй гісторыі робіць адно й тое ж - бароніць, ратуе, дапамагае. Мы - адзіная пасьлядоўная й цьвёрдая апазыцыя намэнклятурнай мафіі ў нашым грамадзтве.

Так што "Па справах іх пазнаеце іх." Гэты біблейскі выраз якраз дарэчы тут.

**- "Ісуса Хрыста любіла Марыя Магдалена. Аскет Зянон застаўся бяз каханьня жанчыны?" Гэтае пытаньне нейкага Яна Сперкіса з Магілёва, якое надрукавала нядаўна газэта "Рэспубліка". Вы - не жанаты, ня маеце дзяцей. Шмат хто з гэтага робіць вялікую палітыку.**

- Маленькім людзям, якія такім чынам робяць вялікую палітыку, я параіў бы не турбавацца. Маё сямейнае становішча ідэальнае, каб стаць Прэзідэнтам. Паглядзіце, што вырабляюць кіруючыя намэнклятурныя сямейкі!

А калі сур'ёзна, то я вельмі адказны чалавек, каб не разумець, што мой палітычны выбар, які я зрабіў у свой час, ня мог не паўплываць на дарагіх і блізкіх мне людзей. Сям'я - гэта сьвятое. Ажаніцца, мець дзяцей - гэта значыла рызыкаваць іх жыцьцём, іх шчасьцем, дабрабытам. Уступіўшы ў змаганьне з камуна-фашысцкім драконам, я ня мог сабе гэтага дазволіць ні падчас сваіх першых рэпрэсіяў у 1964-1967 гадох, ні пазьней. Неаднаразовыя звальненьні з працы, што называецца з "воўчым" білетам, калі КДБ пільна сачыў за тым, каб на працягу паўгода й болей у мяне не было сродкаў для існаваньня. А калі дадаць сюды бясконцыя пагрозы...

У свой час мы з маім сябрам Лявонам Баразной здолелі ўратаваць ад разбурэньня гістарычны будынак тэатра імя Янкі Купалы: падняліся людзі, быў вялікі скандал... Помста была жорсткай. Лявона забілі ў 1972 годзе нажом у сэрца. Мяне ж толькі ў чарговы раз звольнілі з працы.

У 1988 годзе, пасьля таго, як мы правялі першы "Чарнобыльскі шлях", хваля рэпрэсіяў паднялася з новай сілай. Праз пакараньне судом прайшло амаль 30 чалавек. Са мной тады зрабіць гэта было ўжо немагчыма. На першы суд разам са мной прыйшло больш 1000 чалавек, абкружылі будынак суда, запоўнілі залу. Суддзі спужаліся... Затое пачалося сапраўднае паляваньне: спробы арышту на вуліцы, на працы... Прыйшлося перайсьці на паўлегальнае становішча. Больш адной ночы ў адной кватэры не начаваў... І што, вы мне параілі б у такой сытуацыі ажаніцца?

**- "Пазьняк - нацыяналіст. Калі прыйдзе да ўлады, то прымусіць усіх размаўляць па-беларуску. Рускіх, калі не дойдзе да расстрэлаў, то будуць звальняць з працы." Такое можна часьцяком прачытаць у газэтах. Што вы на гэта скажаце?**

- Людзі, якія такое гавораць - самі ў гэта ня вераць. І ведаюць, што яно ня так. Гэта яшчэ адзін прыклад прапаганды, накіраванай на абалваньваньне народу. Таму тут ня трэба ні спрачацца, ні аналізаваць, ні абурацца. Занадта шмат гонару дзеля глупства.

Мае адказы простыя: высяляць рускіх - ня буду; звальняць па нацыянальных прыкметах - ня буду; расстрэльваць - ня буду, й г.д.

І апошняе: парада тым, хто верыць такім плёткам - не чытайце бальшавіцкіх газэт.

## ПРЫСЬВЕЧАНА ВАСІЛЮ БЫКАВУ

19 чэрвеня, у дзень 70-годдзя В.Быкава а 12-й гадзіне ў Менскім парку імя Янкі Купалы адбудзецца вялікі фэст ў гонар народнага пісьменьніка Беларусі. Ладзяць яго Беларускі Народны Фронт разам з іншымі прыхільнікамі творчасьці чалавека, які стаў гонарам і сумленьнем нацыі.

Будзе вялікі канцэрт. Падчас фэсту выступіць Зянон Пазьняк.

Калектыў "Пагоні" далучаецца да віншаваньняў. Жадаем Васілю Ўладзіміравічу моцнага здароўя!

**Ул.інф.**

## ЧАРГОВЫ СОЙМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Ён адбыўся 11 чэрвеня ў Менску й быў цалкам прысьвечаны ходу выбарчай кампаніі й задачам Народнага Фронту падчас яе. З дакладамі і ў спрэчках выступілі З.Пазьняк, Ю.Хадыка, Ул.Анцулевіч, В.Сіўчык, В.Вячорка, З.Жданюк.

У прыватнасьці, было адзначана, што найбольш рэальным канкурэнтам для кандыдата на пасаду Прэзідэнта ад Народнага Фронту стаў А.Лукашэнка. Тым ня менш, найбольш небясьпечны ў гэтым плане - В.Кебіч: з-за яго ных магчымасьцяў маніпуляцый вынікамі галасаваньня.

Зьвернута ўвага на тое, што ва ўмовах фактычнай адсутнасьці выбарчай кампаніі (тое, што маем, - ёсьць фінал) неабходна выкарыстоўваць усе законныя сродкі дзеля прапаганды свайго кандыдата: пікеты, вусная агітацыя, распаўсюджваньне ўлётак, выкарыстаньне сродкаў масавай інфармацыі.

На Сойме быў прыняты Зварот да ўсіх прыхільнікаў дэмакратыі й незалежнасьці наладзіць кантроль за ходам выбараў.

## «КУРАПАТЫ - ДАРОГА СЬМЕРЦІ»

У штаб-кватэры Народнага Фронту ў Менску адбылася прэзэнтацыя кнігі Зянона Пазьняка "Курапаты". Прысутнічалі прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу, акрэдытаваныя ў Менску, ахвяры рэпрэсіяў, сябры "Мартыролагу Беларусі", журналісты.

З прачулымі словамі ўдзячнасьці аўтару кнігі сярод іншых выступіла дачка рэпрэсаванага паэта Тодара Кляшторнага Надзея, якая ўсё сваё дзяцінства правяла ў выгнаньні на Сібіры.

**Ул.інф.**

## БЯЗ ВЕРЫ НЯМА АДРАДЖЭНЬНЯ

У нашым ХХ стагоддзі Беларускі народ перажыў шматлікія войны, акупацыі, жудасны фашыстоўскі й камуністычны тэрор, нарэшце, Чарнобыль. І сёньня, у гэты цяжкі, вырашальны час, Прэзідэнтам нашай Бацькаўшчыны павінен быць чалавек, які верыць у Бога. Бо веруючы чалавек будзе спрыяць духоўнаму адраджэньню. Веруючы чалавек ня можа сказаць няпраўду. Веруючы чалавек будзе думаць аб адказнасьці ня толькі перад намі, а й перад Богам. Сярод кандыдатаў у прэзідэнты толькі адзін веруючы чалавек - Зянон Пазьняк. За яго я й буду галасаваць.

**С.ЁРШ.**

## ВОСЬ ДЫК ІЛЬГОТЫ!

Пэрыяд падрыхтоўкі да выбараў першага прэзідэнта Беларусі паказаў, хто ёсьць хто. Некаторыя з іх каб прабрацца на высокую пасаду, ідуць на ману людзей, хапаюцца за саломінку, як той тапелец.

За подпісам В.Ф.Кебіча была прынята пастанова, што пэнсіянерам ёсьць ільгота на бясплатны праезд у прыгарадным пасажырскім транспарце - чыгуначным і аўтобусным. Для чаго яе далі? Каб задобрыць людзей - ні больш, ні менш. А ці ёсьць гэта ільгота? На чыгуначным транспарце ёсьць, а вось з дня ўвядзеньня ільготы на прыгарадных маршрутах аўтобусы перасталі курсіраваць. Вось табе і ільгота.

В.Ф.Кебіч у сваіх многіх выступленьнях абяцаў цэны на тавары не павышаць. А на справе за травень цэны на ровэры ўзьнімаліся пяць разоў. Калі ў пачатку месяца ровэр каштаваў 347 тысяч рублёў, дык затым стаў 405, 505, 580, 660 тысяч, а цяпер сягнуў мільёна. І так па другім таварам. Вось табе й слова. Каго? Прэм'ер-міністра. Як гавораць, абяцанка-цацанка, а дурню - радасьць.

І яшчэ. Некалькі дзён таму назад Кебіч гаварыў, што зьнізяцца цэны на хлебабулачныя вырабы за кошт гандлёвай надбаўкі. Але такога ніхто ня ўбачыў у нашых крамах. Кебіч кажа, што трэба кампэнсаваць уклады насельніцтва на 60 і 100 працэнтаў у бліжэйшы час. А хто яму забараняў гэта зрабіць раней? Ён жа ва ўладзе!

Што гэта? Палітычныя гульні й зман людзей. Мне проста сорамна за такіх прэтэндэнтаў, што яны дайшлі да такога ўзроўню.

**І.БАРЫСАЎ, пэнсіянер, Гарадзенскі раён.**

## БЮЛЕТЭНІ ЎЖО НАДРУКАВАНЫ

На Гарадзеншчыне зарэгістравана каля 900 тыс. выбаршчыкаў, якія маюць права да ўдзелу ў выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Для галасаваньня створана 896 выбарчых участкаў, у сярэднім кожны на 1 тыс. выбаршчыкаў.

Да выбараў падрыхтавана й завезена на ўчасткі каля 1 млн. запрашэньняў і выбарчых бюлетэняў.

Друкаваліся яны на працягу трох дзён у Гарадзенскай ваблаcной друкарні афсэтным спосабам. Пры друкаваньні бюлетэняў вытворчы цэх круглыя суткі ахоўваўся нарадам міліцыянтаў, а на рабочых месцах, дзе адбывалася друкаваньне, нарэзка і ўпакоўка бюлетэняў, была арганізавана варта з двух сяброў ваблаcной выбарчай камісіі.

З-за нізкай якасьці паперы выраблена шмат бракаваных лістоў, якія складаваліся ў спэцыяльныя мяшкі, апячатваліся і былі здадзены на захаваньне да канца галасаваньня да архіву. Пасьля яны будуць зьнішчаныя ў прысутнасьці сяброў ваблаcной камісіі.

**А.ТАЛЕРЧЫК.**

## ДА ЎВАГІ СЯБРОЎ «ПАХОДНІ»!

**Гісторыка-культурны клюб паведамляе, што на пэрыяд летніх вакацый "Паходня" прыпыняе сваю дзейнасьць да канца жніўня месяца бягучага году.**

**Рада ГКК "ПАХОДНЯ".**

 







# ХОЧАШ ПРАЎДЫ І ЗАКОНУ- ГОЛАС СВОЙ АДДАЙ ЗЯНОНУ!

Лёс Зянона Станіслававіча Пазьняка падобны да лёсу многіх ягоных равесьнікаў. Ён нарадзіўся 24 красавіка 1944 года ў м. Суботнікі Іўеўскага раёну Гарадзенскай вобласьці. Яго бацька Станіслаў Янавіч і маці Ганна Яўхімаўна - карэнныя беларусы, у той час працавалі на зямлі. А ў сьнежні 1944 года ягоны бацька загінуў у разьведцы, вызваляючы ад немцаў горад Катавіцы. На вайне загінулі й двое дзядзькоў: адзін - каманьдзір танку, прайшоў усю вайну й згарэў у танку "КВ" ва Ўсходняй Прусіі, другога фашысты вывезьлі ў Нямеччыну, дзе ён загінуў.

Зянон спазнаў, што такое пасьляваеннае дзяцінства. Да таго ж, ягоны дзед Ян Пазьняк, выдатны беларускі публіцыст і хрысьціянскі дзеяч, быў бязьвінна рэпрэсаваны НКВД у 1939 годзе, і гэта цяжкім кляймом адбівалася на лёсе хлопца.

Маці гадавала сына адна. Але Зянон пераадолеў цяжкасьці, пасьпяхова скончыў сярэднюю школу, а ў 1967 г. - і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. У 1969 годзе паступіў у асьпірантуру. У 1975 г. па палітычных прычынах звольнены з працы, дысэртацыю кандыдата навук быў вымушаны абараняць у Расейскай Фэдэрацыі, у Ленінградзе. З 1976 г. працуе ў Акадэміі навук старэйшым навуковым супрацоўнікам. У КПСС ніколі ня быў.

Не жадаючы, каб цяжкасьці барацьбы за праўду вымушалі пакутаваць іншых людзей, ён тады так і не стварыў уласнай сям'і.

Жыве Зянон Пазьняк з маці-пэнсіянеркай у рабочым раёне Мінска (вул. Ангарская - Герасіменкі). Тут людзі выбралі яго дэпутатам. Стандартную двухпакаёвую кватэру атрымаў у 1979 годзе, адстаяўшы, як і ўсе, у чарзе. Машыны й дачы ня мае. Наогул, Пазьняк - стрыманы ў штодзённым жыцьці, ніколі не карыстаўся прывілеямі.

Пазьняк адкрыў перад сьветам праўду аб масавых расстрэлах невінаватых людзей у Курапатах. У 1988 г. быў ініцыятарам стварэньня Беларускага Народнага Фронту. Пазьняк і Народны Фронт упершыню раскрылі сапраўдныя маштабы чарнобыльскай бяды і, ратуючы народ ад сьмерці, прымусілі ўлады рабіць хоць нешта для пацярпелых ад Чарнобыля.

Пазьняк мае немалы жыцьцёвы вопыт, не памыляецца ў сваіх прагнозах, але ўмее слухаць людзей і вучыцца ў іх мудрасьці.



Ён аб'ехаў амаль усю беларускую глыбінку, сустракаўся і гутарыў з тысячамі людзей.

Зянон Пазьняк - глыбока веруючы чалавек. Ён шануе Бога, шануе продкаў. Пазьняк дамогся ў Вярхоўным Савеце, каб царкве й касьцёлу вярталіся храмы, а Вялікдзень, Нараджэньне Хрыстова, Радаўніца й Дзяды былі аб'яўленыя выхаднымі.

Пазьняк - валявы чалавек. Даводзіць задуманае да канца, не спыняецца перад цяжкасьцямі. Можна не сумнявацца, што сваю запаветную мару - убачыць родную Беларусь свабоднай і багатай краінай - ён зьдзейсьніць.

ЛЕПШ ПАЗЬНЯК, ЧЫМ НІКОЛІ! -

Так сказаў селянін-пэнсіянер са Случчыны, калі тлумачыў свой выбар кандыдата ў Прэзідэнты. У гэтым ягоны выбар і ягоная надзея.

Народны дэпутат Вярхоўнага Савета, кандыдат ў Прэзідэнты Беларусі Зянон Пазьняк ня будзе прадаваць сваю Радзіму расейскім капіталістам-камуністам дзеля "вялікай дружбы", як гэта робяць адны, ці ператкаваць Беларусь у "вялікі перадавы калгас" з мардабоем і падзелам працадзён "всем поровну", як гэтага хочуць другія.

Лёзунг Зянона Пазьняка - "НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ І ПАРАДАК".

Ён лічыць, што першачарговай справай прэзідэнта павінна быць усталяваньне ў грамадзтве законнасьці й парадку. Дзеля гэтага неабходна:

- ачысьціць органы ўлады, міліцыі, арміі ад злодзеяў, лайдакоў, прайдзісьветаў;
- спыніць "прыхватызацыю", вярнуць народу праз суд усё, што нарабавала намэнклятура;
- прыцягнуць да судовай адказнасьці ўсіх вінаватых у сёньняшніх бедах, падмане й рабаваньні беларускага народу;
- гарантаваць бясьпечнае жыцьцё кожнаму сумленнаму грамадзяніну Беларусі.

НОВЫ СУМЛЕННЫ І ЭНЭРГІЧНЫ ЎРАД ПРАФЭСІЯНАЛАЎ будзе весьці адкрытую для народа палітыку. Урад разам з прэзідэнтам:

- распачне эканамічныя рэформы ў інтарэсах Беларусі і яе народа і ўвядзе нацыянальную валюту, што дазволіць спыніць інфляцыю і рост цэн, запоўніць прылаўкі якасным таварам;
- правядзе пасьлядоўную праграму разьдзяржаўленьня й прыватызацыі ў інтарэсах простых людзей;
- зьменіць сістэму падаткаабкладаньня такім чынам, каб спрыяць вытворцам;
- рэарганізуе сістэму аховы здароўя, гарантуе бясплатнае лячэньне ў дзяржаўных мэдычных установах, забясьпечыць грамадзян якаснымі лекамі;
- палепшыць матэрыяльнае становішча пэнсіянэраў, ветэранаў, інвалідаў, для чаго неабходна перадаць частку дзяржаўнай маёмасьці на карысьць пэнсійнага фонду і ўвесьці прагрэсіўны падатак на нерухомую маёмасьць;
- будзе ажыцьцяўляць спэцыяльную маладзёжную палітыку: будзе спрыяць маладзёжнай занятасьці, прыпыніць скарачэньне прыёмаў у ВНУ, захавае бясплатнасьць вышэйшай адукацыі;
- спыніць скарачэньне выдаткаў на адукацыю, культуру, навуку - галіны, на якіх трымаецца будучыня нацыі;
- верне грамадзянам Беларусі страчаныя ў выніку інфляцыі грашовыя ўклады праз сістэму маёмаснай кампэнсацыі;
- наладзіць раўнапраўныя, узаемавыгодныя для нас дачыненьні з Расеяй і іншымі суседнімі краінамі, пры гэтым арыентуючыся на эўрапэйскую інтэграцыю.

Успомніце, як мужна Зянон Пазьняк абараняў інтарэсы народу ў Вярхоўным Савеце папярэднія чатыры гады, і вы пацьвердзіце, што ён ніколі не шукаў асабістай выгоды. Пазьняк даказаў, што яму можна верыць як чалавеку й як палітыку.

Зянон Пазьняк НІКОГА НІ Ў ЧЫМ НЕ ПАДМАНУЎ - ні сяброў, ні ворагаў.

**БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ.**

# ЗАЯВА РАДЫЁСТАНЦЫІ «БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ»

Ужо некалькі гадоў таму сталася відавочным, што партыя ўлады, хутка ачуняўшы пасьля камуністычнага путчу, усур'ёз рыхтуецца ўзяць на Беларусі камуністычны рэванш. Рэанімацыя кампартыі, забарона дзяржаўнага рэфэрэндуму, адстаўка сьпікэра парлямэнту Станіслава Шушкевіча лягічна завершыліся адкрытымі заявамі пра неабходнасьць дэнансацыі Белавежскага пагадненьня, перагляд статусу дзяржаўнае мовы й сымболікі, касаваньне ўласнае грашовае сістэмы й канфэдэрацыю з Расеяй, што фактычна азначае здачу сувэрэнітэту Беларусі. Сродкі масавай інфармацыі павінны былі стацца асноўнай прыладай апрацоўкі грамадзкай думкі. Падпарадкаваўшы сабе практычна ўсе цэнтральныя газэты, радыё й тэлебачаньне, улады пачалі жорстка кантраляваць працу журналістаў. Забарона палітычнай інфармацыі на 8-ым тэлеканале, судовыя іскі супраць дэмакратычных журналістаў і СМІ, ціск на рэдактара "Народнае Газеты" расчышчалі ў беларускай інфармацыйнай прасторы плянцдарм для прэзыдэнцкіх выбараў. У гэтых умовах радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная" заставалася адзінай праграмай на першым канале беларускага радыё, якая, працуючы ў жывым эфіры, імкнулася аб'ектыўна інфармаваць слухачоў пра працэсы, што адбываюцца ў Беларусі. Рэдакцыі гэтага не даравалі. Спробы закрыць "Маладзёжцы" рот за апошнія два гады прадпрымаліся неаднаразова. У арсэнале мэтадаў кіраўніцтва - адхіленьне вядучых ад эфіру, адміністрацыйныя спагнаньні за парушэньне "інструкцыяў" па выдачы ў эфір, патрабаваньні звальненьня асобных журналістаў, забароны цэлых праграмаў і радыёдзён. Матэрыялы, якія меліся выйсьці ў эфір, папярэдне праслухоўваліся кіраўніцтвам радыё, цэнзураваліся ці наогул здымаліся. Запісы "дубляў" эфіру, якія рабіла служба тэхнакантролю, адвозіліся ў Саўмін для праверкі на адпаведнасьць афіцыйным устаноўкам. Але апошнім часам дыктат журналістам і замах на вольнае слова прынялі бязпрэцэдэнтны характар. З 28 траўня наогул спынены выхад у эфір штодзённага трохгадзіннага каналу радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Суботнім ранкам мільёны слухачоў былі пазбаўленыя сустрэчы са старшынёй управы Нацыянальнага Банку Станіславам Багданкевічам, аўтарытэтным прафэсіяналам, які выступіў супраць папулісцкага й зусім неадназначна ўспрынятага ў грамадзтве рашэньня пра аб'яднаньне грашовых сістэмаў Беларусі й Расеі. Фармальнай падставай для забароны суботняга выпуску, які зазвычай мае найшырэйшую аўдыторыю, сталася рэарганізацыя нацыянальнае дзяржтэлерадыёкампаніі ў дзяржаўны камітэт па ТБ і РВ. Па задуме кіраўніцтва, навучанага ў адпаведных саўмінаўскіх структурах "мысьліць дзёрзка", добра спрацаваны й папулярны ў слухачоў калектыў прапаноўваецца штучна падзяліць на дзьве часткі. Пры гэтым на першым радыёканале "БМ" пазбаўляецца статусу радыёстанцыі, на другой жа праграме робіцца часткай радыёканалу без дакладна распрацаванай сеткі вяшчаньня. Ад пасады адхіляецца кіраўнік праграмы Жана Літвіна, самы кваліфікаваны ў сыстэме дзяржтэлерадыё спэцыяліст у галіне маладзёжнага вяшчаньня, які сфармаваў і выхаваў каманду маладых журналістаў. Ужо паведамлена, што на працу ня будзе ўладкаванае самае боездольнае ядро радыёстанцыі - Т.Нічыпарук, А.Радкевіч, В.Сямашка. Сёньня ясна, што пасьпешліва й келейна праведзеная рэарганізацыя носіць намэнклятурны характар. Мэтай яе зьяўляецца расправа над калектывам з больш як 30-гадовай гісторыяй і традыцыямі, які адкрыта выступіў у падтрымку маладое беларускае дзяржаўнасьці, незалежнасьці, адраджэньня, за права на слова розным палітычным плыням і сацыяльным групам. Які адзіны распрацаваў і ўвасобіў у эфіры новую сучасную мадэль вяшчаньня.

Расправу з рэдакцыяй калектыў "БМ" кваліфікуе як палітычную акцыю і наступ на свабоду, што ставіць пад сумненьне магчымасьць правядзеньня дэмакратычных выбараў на Беларусі. Радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная" зьвяртаецца да ўсіх, хто не жадае вяртацца ў часы бяздумнага "усенароднага адабрэньня", да міжнароднае супольнасьці, праваахоўчых арганізацыяў, сродкаў масавай інфармацыі, грамадзкасьці: зрабіць усё, каб спыніць гвалт над дэмакратычнымі СМІ й свабодай слова — бадай адзінай праявай будучага дэмакратычнага грамадзтва на Беларусі.

Заява прынятая адзінагалосна калеткывам рэдакцыі 30.05.1994 г.

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК - ГЭТА АДЗІНЫ ПАРАТУНАК ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Чым бліжэй да выбараў першага прэзідэнта нашай дзяржавы, тым больш адчуваецца непакой за лёс Бацькаўшчыны ў чытачоў "Пагоні". Сваімі меркаваньнямі аб кандыдатах на прэзідэнта дзеліцца ганаровы жыхар Горадні А.К.Шыдлоўскі.**

"Як бачыце, жадаючых кіраваць дзяржавай Беларусь - аж шасьцёра. Ці не занадта гэта? Вядома, што шмат. Але больш непакоіць душу тое, што жадаюць зрабіць, стаўшы прэзідэнтам, кандыдаты. Давайце папарадку.

Вячаслаў Францавіч Кебіч. Асоба мне й яшчэ многім не сымпатычная, я б нават згадаў, неадказная. Успомніце выказваньні прэм'ера наконт Белавежскіх пагадненьняў. Вячаслаў Францавіч прынародна адмаўляецца ад дакумэнтаў, якія замацаваў сваім подпісам. Ствараецца ўражаньне, што ў спадара Кебіча адно жаданьне - пражыць за чужы кошт. Адсюль і рублёвая зона, і эканамічны саюз з Расеяй, і калектыўная бясьпека, і двухмоўе.

Ня менш нечаканай паўстае й постаць А.Р.Лукашэнкі. Што можа гэты чалавек? Ня шмат. Лёс вынес яго на хвалю посьпеху. Пагаманіць, пакрытыкаваць, пастрашыць - гэта яго крэда. Для распрацоўкі дзейснай праграмы па выхаду дзяржавы з крызісу ён ня мае ні ведаў, ні практыкі.

Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, будучы сьпікэрам, мог нямала зрабіць добрых спраў. Страціў час і наўрад ці зможа атрымаць наноў давер.

Аляксандр Дубко наўрад гатовы па-сапраўднаму павесьці рэформы. Ён - дзіця каманднa-разьмеркавальнай сістэмы.

Васіль Новікаў, застаючыся камуністам, на многае ня здольны.

Нашай жа краіне патрэбны мужны чалавек, патрыёт свайго народу, мовы, культуры, гісторыі. Менавіта Зянон Станіслававіч і зьяўляецца такой асобай. Толькі яму можна даручыць лёс Беларусі, бо ён - сапраўдны паратунак для нашай краіны."

**Размаўляў Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

# ХАЦЕЛІ - ЗА КЕБІЧА, АТРЫМАЛАСЯ - ЗА ПАЗЬНЯКА

Наўзамен вырашэньня надзённых пытаньняў на нарадзе старшынь Сельскіх Саветаў у Гарадзенскім райвыканкаме распачалася актыўная прапаганда за "самого достойного" кандыдата В.Кебіча.

Даведаўшыся пра такое, актывісты з групы падтрымкі З.С.Пазьняка, прыхапіўшы добры стос улётак, зьявіліся падчас перапынку ў фае памяшканьня па вул.Горкага.

На іх дзіва, савецкія работнікі ўмомант расхапілі стос улётак. Давялося яшчэ некалькі разоў падвозіць іх да райвыканкаму.

Крыху пазьней у тым жа памяшканьні адбыўся сход дырэктароў школ Гарадзенскага раёна. І тут у папулярнасьці Зянону Станіслававічу не было роўных.

**Г.ПАДЛЯШУК.**

# ШКАДА ЧАСУ

Як ні старалася адміністрацыя ГДМІ дагадзіць даверанай асобе В.Кебіча падчас яго выступленьня ў адной з аўдыторый галоўнага корпусу, нічога ня выйшла. Студэнты, якіх, відаць, зьнялі з заняткаў, слухалі прамоўцу (а ім быў галоўны ўрач шпіталю N 9 г.Менска) ня болей 7 хвілінаў. Зразумеўшы, што агітаваць за прэм'ера ў Горадні цяжка, госьць, спаслаўшыся на недахоп часу, пакінуў сцэну. Студэнты й выкладчыкі, пасьмейваючыся, разыйшліся.

# У ЖАЎНЕРАЎ НЯМА ГОЛАСУ, АЛЕ ЁСЬЦЬ ЗАГАД

Скарыстаўшы вядомы набор словаў "великого и могучего языка", каманьдзір адной вайсковай часткі супрацьпаветранай абароны, што месьціцца бліз Горадні, маёр М.Бялоў забараніў актывістцы з групы падтрымкі за кандыдата ў прэзідэнты Беларусі З.Пазьняка распаўсюджваць улёткі.

На зьдзіўленьне "бравого маера", жанчына не спалохалася, а наадварот, пракраўшыся да кашараў, сустрэлася з жаўнерамі, распаўсюдзіла ўлёткі й даведалася, што для жаўнераў ёсьць загад каманьдзіра: галасаваць толькі за Кебіча.

**Г.Н.**

 

# ГРАМАДЗТВА

## КААЛІЦЫЯ МАЛАДЫХ ДЗЯРЖАЎ - ГЭТА ПАНАЦЭЯ АД АГРЭСІІ З УСХОДУ

Памятаю, ў маленстве мой дзед, удзельнік Расейска-японскай вайны 1905 года, згадваў так: "Ты ня думай, унучак, што расейскае войска прайграла японцам кампанію. Яе прайграла цьвердалобая імпэрская палітыка. Супраць Расеі ваявалі не японцы, а й амэрыканцы, ангельцы, французы. У дыпляматыі яны трымаліся нэйтралітэту, а ў ваеннай прамысловасьці падтрымлівалі японцаў. Так, унучак, увесь сьвет баяўся ад расейскага ярма."

Аналізуючы аповяд дзеда, даходжу да высновы, што ад расейскага ярма й зараз бароняцца амаль усе былыя саюзныя й аўтаномныя рэспублікі былога братняга Саюза.

Як жа выстаяць гэтым маладым, нявопытным краінам у барацьбе з яўнай і скрытай агрэсіяй вялікага суседа?

Адзінае выйсьце, на маю думку, - аб'яднаньне сувэрэнных дзяржаў у кааліцыю, якая б змагла эканамічна й палітычна выстаяць, пратрымацца хоць бы гадоў 10. Пакуль Эўрапэйская супольнасьць, ЗША, Канада ды многія іншыя краіны перайначаць свой сьветапогляд у адносінах да наноў створаных, адроджаных незалежных рэспублік. Толькі аб'яднаньне на ніве сумеснага супрацьстаяньня новай імпэрскай палітыкі з Масквы дасьць сапраўдную незалежнасьць і нам, беларусам.

**Г.ВАЛАДАШЧУК.**

## ФОНД ПАДТРЫМКІ МУСУЛЬМАНАМ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ СКАСАВАНЫ

Прыкладна год праіснаваў заснаваны ўрадам Саудаўскай Аравіі пры гарадзенскім культурным татарскім таварыстве "Кітаб" фонд матэрыяльнай падтрымкі для адзінокіх матуль і састарэлых людзей ісламскага веравызнаньня.

Скарбнік Фонду Юсуф Мірза Крыніцкі расказаў наступнае:"Мы параўну дзелім сродкі тым, хто ў іх мае патрэбу. Многім падалося, што іх маняць. Таму вырашана скасаваць Фонд, а ўсе дакумэнты аб яго дзейнасьці адаслаць да Менску ў штаб-кватэру Рэспубліканскай мусульманскай арганізацыі."

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## МАГЧЫМА ЗЬМЕНА

Стала вядома з кампэтэнтных крыніцаў інфармацыі, што ва ўпраўленьні ўнутраных спраў па Менску й вобласьці магчымы вялікія кадравыя зьмены. Напэўна, Менскае гарадзкое ўпраўленьне ўнутраных спраў хутка ўзначаліць палкоўнік Тарлецкі, першы намесьнік сучаснага кіраўніка сталічнага УУС генэрала Піліпенка, які, верагодна, адыдзе на рэнту.

Новы кіраўнік чакаецца і ў УУС па Менскай вобласьці. Працуючы на пасадзе кіраўніка вабласнога ўпраўленьня, генэрал Карповіч, верагодна, ўзначаліць аддзел па барацьбе з зарганізаванай злачыннасьцю. Пераемнікам генэрала Карповіча стане народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, начальнік Цэнтральнага РАУС Менску падпалкоўнік Русак, які вядомы ў сталіцы больш па незаконных справах у разьмеркаваньні жытла ды іншых.

## АМАП РАЗЬМІНАЕЦЦА

Больш за 100 "варацілаў" злачыннага сьвету са ўсіх куткоў былога СССР зьехаліся ў менскае кафэ "Рандэву" на вясельле мясцовага злодзея ў законе. Добра пагуляць злодзеі ў законе не змаглі, бо ў самы разгар вясельля да кафэ ўварваўся АМАП і распачаў вобыск і праверку дакумэнтаў.

Праўда, чакаемых вынікаў вобыск не прынёс, бо злодзеі былі без зброі, ды й ахова злодзеяў трымалася вельмі ветла.

## ВЯЗЬНІ – ДАРМАЕДЫ

На калегіі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, акрамя іншых пытаньняў, абмяркоўваўся фінансавы стан ворганаў міліцыі.

На пасяджаньні прагучала, што пад дзяржаўную праграму па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю ня выдзелена ні граша. Больш таго, з цяжкасьцямі былі знойдзены сродкі на выплату заробку МУС за красавік.

Сытуацыя пагаршаецца неабходнасьцю ўтрымліваць вялікую колькасьць вязьняў: іх у Беларусі ў пераліку на тысячу чалавек насельніцтва ў чатыры разы болей, чым у Польшчы, і ў дзесяць разоў - чым у Балгарыі. Кожны чацьвёрты вязень не забясьпечаны працай і таму ня можа дапамагаць дзяржаве ўтрымліваць яго пад вартай.

## СТРАТЫ НЯ БУДУЦЬ ПАКРЫТЫЯ

Скончылася разьбіральніцтва паміж Міністэрствам абароны й Міністэрствам унутраных спраў Беларусі наконт разукамплектаваньня 200 бронетранспарцёраў.

У сувязі з пераўзбраеньнем БТР ў 1992 годзе паступілі з 103-ай паветрана-дэсантнай дывізіі, што дыслакуецца ў Віцебску, на базу МУС у Магілёве. Там тэхніка практычна не ахоўвалася, бо міліцыя за яе адказнасьць ня несла. У выніку, агульныя страты ад рабаваньня запасных частак і навяснога абсталяваньня склалі больш за 150 мільёнаў рублёў.

## АТРУТА Ў ВАДЗЕ

Два чалавекі ў Баранавічах памерлі й некалькі трапілі ў шпіталь пасьля ўжываньня ...пітной вады. Па заключэньню мясцовай санэпідэмстанцыі, яна была атручаная аміякам.

Вінаватымі ў масавым атручваньні людзей зьяўляюцца работнікі спэцыялізаванага цягніка N 4, па абыякавасьці й надбайнасьці якіх атрута трапіла ў артэзіянскую сьвідравіну.

**СІМ**

## БОЙКА НА ПЛЯЦЫ

**Успамінам гарадзенца Віталя Бурла пра лета 1972 года рэдакцыя "Пагоні" спрабуе зьліквідаваць прагалы ў гісторыі аднаго з першых пратэстаў моладзі супраць рэжыму камуністых.**

Мне йшоў 17-ты, юнакі Горадні майго ўзросту захапляліся музыкай групы "Бітлз". Вучыўся ў вучылішчы энэргетыкаў N 7 па вул. Леніна. Памятаю, як прыйшоў камсарг і паведаміў, што ў нашым горадзе "валасацікі" хочуць наладзіць нейкі фэст. Нам, маладому папаўненьню працоўнага класа, належыла супрацьдзейнічаць "антыдэмакратычным, буржуазным выпадам антысавецкіх элемэнтаў". Як гэта зьдзейсьніць - камсарг не згадаў. Пасьля выступу камсарга ў большасьці маіх сябрукоў зьявілася жаданьне трапіць да гурту дэманстрантаў.

Хітрыкамі ўдалося дазнацца пра месца дэманстрацыі й час. Раніцой назначанага дня я з сябрамі быў на вакзале. Колькасьць удзельнікаў шэсьця павялічвалася кожны раз, як прыбываў цягнік. Удзельнікі акцыі пратэсту былі самага рознага ўзросту й чамусьці называлі Горадню "Чырвоным Парыжам". Зазначу, што ўсе прыежджыя вялі сябе па-сяброўску, жартавалі. Казалі, што калі дэманстрантам удасца зрабіць хоць 100 крокаў - нават гэта будзе перамога.

Раптам зьявіліся "чырвоныя" агітатары. Яны спрабавалі запалохаць некаторых маніфэстантаў прыкладна так:"Вы абылганы буржуазнай прапагандай, якая толькі й жадае збэсьціць заваёвы першай у сьвеце дзяржавы рабочых і сялян." На заклікі агітатараў чуўся сьмех, кпіны. Неўзабаве шыхт крануўся. Я і двое сябрукоў рушылі поруч з дэманстрантамі. Раз-пораз да калёны ўрываліся правакатары, спрабуючы выклікаць хоць якія непаразуменьні. Але калёна на правакацыі адказвала маўчаньнем ці сьмехам. Так прайшло хвілін 20-25. Маніфэстанты падыходзілі да Савецкага пляца, калі ім насустрач выйшлі чалавек 200-300, ў асноўным моладзь. (Як высьветлілася потым, гэта быў камсамольскі актыў вобласьці). Усчалася напачатку сварка, а затым бойка. Камсамольцы прайгралі. На дапамогу ім кінуліся міліцыянты, потым хлопцы са "спэцназу". Дэманстранты не здаваліся, не галасілі, а адказвалі на ўдары такім жа чынам. Бойка працягвалася хвілін 10-15. Савецкія, спэцыяльна падрыхтаваныя жаўнеры перамаглі. Плакаты, штандары пакідалі да фургянеткі. Арыштаваных дэманстрантаў адвозілі на рэфрыжэратарах. На дзіва, многія дзяўчаты й хлопцы хоць і былі пабітыя, але сьмяяліся, сьпявалі, крычалі словы пратэсту. Увогуле, відовішча на гарадзенскім пляцы было не для людзей з слабымі нэрвамі.

Я пазнаёміўся праз колькі дзён з адным з дэманстрантаў - Анатолем з Варашылаўграду. Ён быў моцна пабіты й ня меў сродкаў, каб ад'ехаць дахаты. Мае бацькі прынялі Анатоля, падлекавалі, купілі білет.

Доўга яшчэ сакратары ад партыі камуністых і камсамольцаў падавалі гарадзенскую дэманстрацыю як выяву гнілога капіталізму. Але ў тых, хто быў сьведкам гэтай падзеі, такая прапаганда ня мела посьпеху. Шмат хто зразумеў, што за правы чалавека ў Савецкай дзяржаве ўжо ёсьць каму змагацца. Думаю, гарадзенская дэманстрацыя лета 1972 года была мэтанакіраваным пратэстам таталітарнаму рэжыму."

**Запісаў Г.АСТРОЎСКІ.**







## ВУЛКАМІ ПРЫВАТНАГА СЭКТАРУ ГОРАДНІ

Дагэтуль існуюць паданьні пра збудаваныя ў Горадні будынкі-палацы: афіцыянтам рэстарану - на "чаявые", фатографам-аматарам - на прыбытках ад фотасправы... Гэтыя будынкі пасьля прыходу бальшавікоў былі нацыяналізаваныя.

Увазе чытачоў прапануем зьвесткі пра некаторыя з тых дамоў, якія ўлады камуністых адабралі ў гаспадароў. Вядома, зьвесткі гэтыя ня могуць быць поўнымі. Спадзяёмся, што з Вашай дапамогай мы вернемся яшчэ да гэтага пытаньня й да гэтай праблемы. Пішыце нам пра лёс такіх дамоў, пра лёс іхніх гаспадароў.

Дом на верхнім здымку (справа) знаходзіцца на перакрыжаваньні вуліц Цітовай і Лелевеля. Некалі тут жыла адна сям'я, пасьля нацыяналізацы у ім часта мяняюцца ўладальнікі кватэр.

На сярэднім здымку дом фатографа Бутылкіна па завулку Суворава. Ён быў нацыяналізаваны ў 50-ыя. Вядома, што спадкаемцы фатографа жывуць у Горадні.

Дом на апошнім здымку мясцовыя ўлады скарыстоўваюць як часовае жытло. Асабліва часта мяняюцца жыхары на другім паверсе дома. Гаспадары пасьля нацыяналізацыі будынка зьехалі да Польшчы.

**P.S.:** Газэта "Пагоня" й надалей плануе працягваць знаёміць гарадзенцаў з адабранымі ў сапраўдных гаспадароў уладамі камуністых дамамі.

**Г.ЗАНЕМАНСКІ.**
**Фатаграфаваў В.ЧЭСЛАВІЧ.**





СУМЕЖЖА

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Польшча мае шанц падвоіць да 1997 года гандлёвы абарот з Усходам, аднак павінна весьці больш актыўную гаспадарчую палітыку. "Калі мы ня будзем супрацоўнічаць, прыстасоўваючыся да тамашніх варункаў, - ня будзем прысутнічаць на Ўсходніх рынках",- заявіў міністр гаспадарчага супрацоўніцтва з заграніцай.

* * *

Эўрапартнырарыят - вялікая сустрэча эўрапэйскіх прадпрыймальнікаў - упершыню адбылася ў Цэнтральнай Эўропе - у Гдыні. Удзел у спатканьні прынялі 1690 фірмаў з Заходняй Эўропы і 401 прадпрыемства Польшчы. Мэта гэтай імпрэзы - пошук гандлёвых партнёраў у іншых краінах і падтрымка гаспадарчага супрацоўніцтва.

* * *

Ветэраны, згуртаваныя ў пагадненьні ветэранскіх незалежніцкіх арганізацый, і сакратарыят цэнтрысікх і правых груповак, супрацьпаставіліся запрашэньню прэзідэнтаў Расеі й Нямеччыны ў Польшчу на сьвяткаваньне 50-й гадавіны Варшаўскага паўстаньня. На іх думку, аб прымірэньні й запрашэньні правадароў Расеі й Нямеччыны можна будзе падумаць толькі тады, калі Польшча атрымае ад урадаў гэтых дзяржаў дакументы, у якіх будзе змешчана сцьвярджэньне, што іх краіны напалі на Польшчу. У гэтых дакумэнтах, акрамя ўсяго, неабходны словы прабачэньня.

* * *

На пляжы "Амаха" адбыліся галоўныя ўрачыстасьці з выпадку 50-й гадавіны высадкі войска ў Нармандыі. У сьвяткаваньні прынялі ўдзел кіраўнікі дзяржаў, якія паўстагоддзя таму ўваходзілі ў склад антыгітлераўскай кааліцыі й салдаты якіх змагаліся на палях Нармандыі. Ва ўрачыстасьці ўзялі ўдзел прэзідэнт ЗША Б.Клінтан, Францыі - Ф.Міттэран, Польшчы - Л.Валэнса, а таксама Брытанская каралева Елізавета II.

* * *

Прэм'ер-міністр В.Паўляк, адкрываючы ў Тарнаве Другі сусьветны форум паланійнага друку, зьвярнуўся да 150 журналістаў з 23 краін сьвету з заклікам наладжваць кантакты з Радзімай.

* * *

У Беластоку быў адкрыты помнік папе Яну Паўлу II. Манумэнт узьведзены ў гонар 3-й гадавіны панскага візыту ў горад. Помнік асьвяціў апостальскі нунцый, архібіскуп Ю.Кавальчук.

* * *

Пачаліся ўступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя установы Беластоку. На факультэце расейскай філялогіі філіяла Варшаўскага ўнівэрсітэта, дзе чакаюць 80 свабодных месцаў, замест экзаменаў адбудзецца кваліфікаваныя размовы.

**Па матэрыялах польскага друку.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

На пасяджэньні праўленьня Летувіскага тэлебачаньня працягнулася абмеркаваньне, каму здаць у арэнду рэклямную гадзіну канала "Астанкіна" з 18 да 24 гадзін і хто будзе аплочваць за рэтрансьляцыю гэтай праграмы ў Летуве.

Генэральны дырэктар Летувіскага радыётэлецэнтра П.Ужняльскіс паведаміў, што атрымаў ліст ад намесьніка міністра фінансаў Расеі У.Малчанава з абяцаньнямі пакрыць расходы.

Аднак усё гэта пакуль даволі цьмяна, паколькі ў "Астанкіна" няма нават грошай, каб выплаціць заробак сваім супрацоўнікам.

* * *

Кіраўнік Летувіскага цэнтру прафіляктыкі СНІДа С.Чаплінскас інфармаваў, што ў краіне зарэгістраваны 22-гі выпадак ВІЧ. Гэта жанаты малады мужчына, жыхар аднаго з буйных гарадоў Летувы. Ён заразіўся праз палавыя сувязі.

Чацьвёра з 22-х хворых на СНІД ўжо памерлі.

* * *

На нядаўняй прэс-канфэрэнцыі ў Сэйме намесьнік старшыні Сэйма Э.Бічкаўскас сказаў, што, на яго думку, у бліжэйшы час немагчыма наладзіць поўны кантроль за арганізаванай злачыннасьцю ў краіне. Ён лічыць, што зараз складаецца новая сытуацыя, у немалой ступені зьвязаная з працэсамі прыватызацыі. На яго думку, прамысловасьць Летувы падзялілі паміж сабой 5-6 фінансавых груповак, якія зьдзяйсьняюць хуткае ўзыходжаньне па лесьвіцы ўлады.

* * *

18 чэрвеня ў 15 гадзін 30 хвілін у Салечніках адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё Беларускага Культурнага Цэнтру. Арганізатары абяцалі зарганізаваць у гэты дзень сапраўднае беларускае сьвята.

Аб сваім жаданьні прыехаць на гэтую ўрачыстасьць выказаліся пасольства Беларусі ў Летуве, пасольства Летувы ў Беларусі, Міністр замежных спраў Беларусі, старшыня Гарадзенскага аблвыканкама й іншыя госьці.

На сьвята запрашаюцца ня толькі беларусы з Салечнікаў, але й іх землякі іншых нацыянальнасьцяў.

* * *

У Вільні адбылося ўрачыстае падпісаньне Дагавора аб супрацоўніцтве паміж Віленскім універсітэтам і Нацыянальным універсітэтам ім.Т.Шаўчэнкі ў Кіеве. На цэрымоніі прысутнічалі рэктары абодвух вузаў, пасол Украіны ў Летуве, члены Сэнату Віленскага універсітэта. Віленскі унівэрсітэт актыўна завязвае кантакты з многімі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі Эўропы, аднак не забывае, што і ва ўсходніх суседзяў існуюць моцныя вышэйшыя школы й кадры.

* * *

Асобы, якія ня маюць ніякіх даходаў, атрымліваюць у Летуве зараз сацыяльную дапамогу ў памеры 22,8 літа. Урад краіны пастанавіў з 1 чэрвеня павялічыць яе памер да 49 літаў.

**Па матэрыялах летувіскага друку.**

Інтэрв'ю з журналістам

# БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ВАРШАВЕ ШЛЕ ПРЫВІТАНЬНЕ ЧЫТАЧАМ «ПАГОНІ» І ЗАПРАШАЕ ДА РАДЫЁПРЫЁМНІКАЎ

**Марцін Сьмялоўскі, супрацоўнік беларускай праграмы польскага радыё ў Варшаве, прыехаў у Горадню па службовых справах і не забыўся наведаць рэдакцыю "Пагоні" як адзіную беларускую ў нашым горадзе. Такое здараецца, на жаль, ня часта, й Марцін пагадзіўся распавесьці нашым чытачам аб сваёй рэдакцыі, перадаваў усім шчырае прывітаньне й заахвочваў слухаць перадачы з Варшавы на беларускай мове.**



**- Марцін, што сабой уяўляе беларуская праграма польскага радыё?**

- У пятай праграме польскага радыё існуе пяць іншамоўных рэдакцый, сярод іх і беларуская, якая працуе са студзеня 1992 года. Задачай нашай праграмы зьяўляецца інфармаваньне слухачоў у Беларусі, а таксама беларусаў ва ўсім сьвеце аб тым, чым сёньня жыве Польшча. Аб палітычнай сытуацыі, справах эканомікі, культуры, а таксама аб вельмі важным моманьце - польска-беларускіх адносінах.

У нас працуюць шэсьць чалавек: пяць з іх - беларусы, адзін я - паляк. Мовай валодаюць усе даволі арганічна: скончылі беларускі факультэт у Варшаве. Я, дарэчы, таксама скончаю беларускую філялогію й хутка абараняю дыплём.

**- На якія краіны трансьлюецца ваша праграма?**

- Пятая праграма трансьлюецца амаль на цэлы сьвет. Ангельскія перадачы, нямецкія і эспэранта чуваць нават у ЗША, Паўднёвай Амэрыцы і ў Скандынавіі. Нашы перадачы, на жаль, найбольш дрэнна чуваць менавіта ў Менску, бо так настроеныя перадатчыкі. Добра іх прымаюць у Нямеччыне і, відаць, нават у Аўстраліі, бо былі адгалоскі й адтуль.

**- Адкуль найболей дасылаюць на рэдакцыю лісты?**

- Найболей лістоў прыходзіць на нямецкую рэдакцыю й эспэранта. Ды і існуюць яны ўжо даволі працяглы час.

Да нас лісты прыходзяць не рэгулярна. Пастаянных слухачоў няшмат, але апошнім часам, здаецца, справа папраўляецца.

**- А як у прафэсійных адносінах: ці горшыя вашы перадачы, скажам, ад нямецкай рэдакцыі?**

- Думаю, што не. Паколькі нашы супрацоўнікі хоць і не прафэсійныя журналісты, аднак усе мы мелі й маем добры вопыт супрацоўніцтва з польскімі рэдакцыямі. І відавочна, што нашая праграма не ўступае іншым па прафэсіяналізму.

Наша рэдакцыя розьніцца яшчэ й тым, што ў нас больш уласных перадач, а на іншых сустракаецца шмат перакладаў.

**- Ці атрымліваеце вы нейкую інфармацыю з Беларусі?**

- Да апошняга тыдня мы мелі вельмі цеснае супрацоўніцтва з "Беларускай маладзёжнай". У нас была падпісана дамова аб супрацоўніцтве па абмену інфармацыяй, журналістамі й г.д. Тры разы ў тыдзень яны - нам, а мы - ім на 3-5 хвілін давалі інфармацыю па тэлефоне. Што, дарэчы, беларускага слухача вельмі прыблізіла да нашае праграмы.

Мы ў Варшаве, даведаўшыся аб закрыцьці "Беларускай маладзёжнай", былі вельмі ўзрушаныя. Гэта доказ таго, што беларускія сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца пад вялікім уплывам уладаў.

Свабодная прэса, свабодны доступ інфармацыі - гэта адзін з атрыбутаў дэмакратычнай дзяржавы, якою ваша краіна, на жаль, не зьяўляецца, й абставіны выглядаюць так, што дэмакратыя ў вас шмат каму не падабаецца.

**- Як ты ацэньваеш узровень беларускага радыё, прэсы, тэлебачаньня?**

- Я прывяду прыклад. У адным з апошніх нумароў "Свабоды" быў здымак з Варшавы, здаецца, нейкай паліцэйскай акцыі. І гэты здымак быў перадрукаваны з Варшаўскай газэты аб падзеі, якая адбылася толькі ўчора. Дык вось гэта й цудоўна.

Калі гаварыць аб беларускім радыё, то апэратыўнасьць тут не самая лепшая. Часам мы з Варшавы тэлефануем у Менск і пытаемся аб якой-небудзь падзеі, што здарылася ў Беларусі, а яны яшчэ аб гэтым і ня чулі.

А што датычыць беларускага тэлебачаньня, то казаць нічога ня хочацца, бо ў нас самі беларусы пісалі аб ім у газэтах і адзываліся не найлепшым чынам.

**- Марцін, крыху асабістае пытаньне. Ты сказаў, што зьяўляешся палякам. Цікава, як ты прыйшоў да беларускай справы?**

- У беларушчыне я знайшоўся даволі выпадкова, бо вырас у Варшаве, вучыўся ў польскай школе. Праўда, калі пачаў паступаць ва унівэрсітэт, то вельмі доўга думаў - на які факультэт. Неяк цяжка было выбраць. Ну, і выпадкова ўбачыў - беларуская філялогія. А тата мой, дарэчы, з Беласточчыны.

Ну вось я й вырашыў. Паступіў, і вельмі хутка навучыўся мове, а з трэцяга курса па рэкамэндацыі прафэсара Баршчэўскага працую ў беларускай рэдакцыі й вельмі з гэтага задаволены.

І наогул, я вельмі добра стаўлюся да Беларускай дзяржавы, да незалежнасьці, да беларускай меншасьці ў Польшчы.

**- А як табе наша Горадня, нашае жыцьцё?**

- Тут вельмі спакойна. Прыехаў я раніцой, было ціха, ніякіх машынаў, сонейка толькі-толькі ўзыходзіла, і падумалася, што было б прыемна тут правесьці вакацыі, адпачыць.

Людзі ў вас вельмі прыемныя. Адзінае, цяжкасьцяў шмат у вас. Хоць, зрэшты, як і ўсюды. І яшчэ, што вельмі ўражвае, дык гэта вашыя дзяўчаты. Пра гэта нельга не сказаць.

**- Што ж, дзякую за гутарку й жадаю посьпехаў на беларускай ніве.**

**Размаўляў М.КАРНЕВІЧ.**
**Фатаграфаваў А.УЛАДАСЕВІЧ.**

# КАЛІ Б ВІТАЎТ КІПЕЛЬ БЫЎ ГРАМАДЗЯНІНАМ БЕЛАРУСІ, ТО ЁН ПАДТРЫМАЎ БЫ ТОЛЬКІ ПАЗЬНЯКА



**У мінулым нумары нашай газэты мы ўжо паведамлялі аб канфэрэнцыі "Шлях да ўзаемнасьці", якая адбывалася ў Горадні і ў якой браў удзел Вітаўт Кіпель з ЗША, вядомы беларускі навуковец, публіцыст, палітык, дырэктар Інстытута і ганаровы доктар Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэта імя Я.Купалы. На жаль, у нашым горадзе спадар Кіпель пабыў вельмі мала, і толькі ў перапынку, падчас канфэрэнцыі наш карэспандэнт М.Карневіч задаў яму ўсяго некалькі пытаньняў.**

**- Спадар Кіпель, як вы ацэньваеце сёньняшнюю канфэрэнцыю? Што цікавага для сябе ўзялі?**

- Для мяне найперш цікава тое, што мы пачынаем дыскутаваць з палякамі аб праблемах, якія бясспрэчна існуюць, т.зв. падводных каменьнях. Гэта і гістарычнае мінулае, тэрміналёгія, сёньняшняя праблемы, пра якія казаў старшыня БГКТ. І чым больш мы дыскутуем, магчыма, тым больш нам удасца шмат якія праблемы зьліквідаваць.

**- Мінуў год, як вы былі ў Горадні. Якія ўражаньні? Што, на ваш погляд, найбольш у нас зьмянілася?**

- Я, на жаль, пакуль не пасьпеў агледзецца. Па канфэрэнцыі адчуваю, што беларуская думка жыве, й гэта вельмі цешыць. Бачу, што ў Горадні выдадзены новы часопіс і кніжка - гэта азначае, што жыцьцё ў вас не замірае.

**- Ці даходзіць да вас "Пагоня"?**

- "Пагоню" мы атрымліваем, і заўсёды ёй радыя. Асабіста я вельмі люблю вашу газэту й хачу, каб яна й надалей існавала.

**- Разумею, што вы сьпяшаецеся, і ўсё ж яшчэ адно пытаньне. Як вам за акіянам бачыцца нашая сытуацыя наконт прэзідэнцкіх выбараў?**

- Тое, што робіць цяперашні Старшыня, - вельмі пагана. Гэта нават супраць Канстытуцыі. Зразумейце, я зараз размаўляю як чалавек звонку. Аднак, калі б я быў грамадзянінам Беларусі, безумоўна, я б адназначна падтрымаў бы Беларускі Народны Фронт як першую дэмакратычную апазыцыю. Спадзяюся, што так і зробяць жыхары Беларусі.

 



# ПРЭЗЭНТЫ САВЕЦКАГА НАРОДА




**Пра вялікую прагу першых асобаў Савецкай краіны да разнастайных падарункаў вядома. Пра прэзэнт "вялікаму таварышу Сталіну ад мэталургаў Казахстану" напісана няшмат.**

**Карэспандэнту газэты "Совершенно секретно" пашэньціла трапіць у Маскоўскае спэцсховішча й паглядзець адзін такі падарунак пад інвэнтарным нумарам 547. Як ня дзіўна, але тыя, хто выканаў і даслаў "прэзэнт" з талію правадыру ўсіх часоў і народаў, ня ведалі аб некаторых "якасьцях" гэтага мэталу.**

Ёсьць мэталы, якія не ўзьнікаюць у расплаўленай пародзе. Яны расьсеяныя па зямлі. Спроба атрымаць іх у чыстым выглядзе нагадвае тэхнічны дэтэктыў: спэцыяліст гоніцца за "аб'ектам", а ён, зьнікаючы, пакідае толькі сьлед.

Напрыканцы 1950 года на Усьць-Каменагорскі цынкавы завод у катэгарычным загадзе прыйшла ўрадавая пастанова: тэрмінова наладзіць прамысловую вытворчасьць талію. У СССР нядаўна была вынайдзена атамная бомба. Адзіным сродкам дастаўкі новай зброі былі цяжкія бамбардоўцы. Савецкая разьведка даведалася, што для прыцэлаў начной наводкі амэрыканцы на самалётах В-23 прымяняюць нейкае новае рэчыва - талій.

Вынайсьці аналяг з адыходаў каляровай мэталургіі даручылі інжэнеру Арыю Міхайлавічу Акошнікаву.

На Усьць-Каменагорскім заводзе да прыезду Акошнікава скарыстоўвалі мокрыя спосабы атрыманьня мэталаў са здабываемых руд. У такіх цэхах бурляць не расплаўленыя патокі, а кіпяць, вылучаючы ядавіты газ, кіслотныя растворы мінэралаў. Менавіта з гэтых хімічных злучэньняў неабходна вылучыць патрэбны элемэнт, часьцей гэта цынк, чырвоная медзь, сьвінец, іртуць, а ў адыходах захоўваецца яшчэ шмат каштоўнага: золата, ванадзій, кобальт. На "мэталургічным сьметніку" інжэнер Акошнікаў і павінен быў знайсьці стратэгічнае рэчыва - талій.

Пра гэты мэтал людзі ў 50-ыя ведалі ня шмат. Першым пра яго загаварыў у 50-ыя гады мінулага стагоддзя ангельскі вучоны Уільямс Крукс. Потым, праз 10 год, навукоўцы з Нямеччыны Робэрт Бунзен і Густаў Робэрт Кірхгоф адкрылі мэтад спэктральнага аналізу. Падзея на ўзроўні вынаходніцтва мікраскопа. Крукс вырашыў наноў выпрабаваць свае вопыты з адыходамі каляровых мэталаў.

Калі наўзамен лініі тэлуру ў спэктры замільгацела блакітная нітка, якая не магла належыць ніводнаму іншаму элемэнту, Крукс здагадаўся, што ён знаходзіцца на парозе нейкай таямніцы.

Справа была вясной, і Крукс даў назоў свайму вынаходніцтву "талій", што азначае ў пераводзе з грэчаскага "маладая зелень".

Маючы вельмі ўмоўныя зьвесткі пра тэхналёгію здабываньня талію, Юры Міхайлавіч зімняй ноччу 1955 года наважыўся распачаць экспэрымэнт.

Як згадвае сам аўтар савецкага вынаходніцтва, ён і яго калегі тыднямі не выходзілі па-за сьцены заводу.

Ні ў айчыннай, ні ў замежнай літаратуры не было зьвестак аб тэхналёгіі вырабу талія. У сваёй працы савецкія вучоныя аддавалі перавагу інтуіцыі.

Першасныя вопыты не далі посьпеху. Блакітны сьлед патрабуемага прадукту зьнікаў у паўфабрыкатах. Па ланцуговай сістэме група Акошнікава даходзіла да высновы. 25 студзеня, разагрэўшы паўпрадукты да неабходнай тэмпэратуры, Акошнікаў на сваю рызыку апускае да іх цынкавую пласьціну. На паверхі пласьціны зьявіліся тлустыя ігольчатыя крышталі. З гэтых крышталяў пад узьдзеяньнем акісьляльніка згатавалі брыкеты й наноў пераплавілі іх пад узьдзеяньнем кіслаты. У выніку атрымалася каля 100 грамаў шэрага, падобнага на сьвінец рэчыва.

Інжэнер панёс сваё вынаходніцтва да дырэктара.

Дырэктар запытаў, чым ён дакажа, што гэта талій. Акошнікаў адказаў, што рэчыва неабходна сьпекчы ў спэктрографе. Калі іскра будзе зялёнай - значыць, перамога. Такім чынам, тэхналёгія выпрацоўкі талію была знойдзена. Для гэтага скарыстоўвалася абсталяваньне, што было вывезена па рэпарацыі з Нямеччыны.

Калі назапасілі добрую колькасьць талію, у кіраўніцтва нарадзілася ідэя: выліць бюст І.В.Сталіна.

Бяда выявіла сябе праз некалькі месяцаў. Таксічны талій найперш адгукнуўся на здароўі яго вынаходцы. Арый Міхайлавіч адчуў моцны зуд у пальцах. Потым яны апухлі ў суставах, на скуры зьявіліся ачагі экзэмы.

Хутка такія ж сымптомы выявіліся і ў іншых супрацоўнікаў. Рабочыя і інжэнеры былі шпіталізаваныя. Толькі тады дырэкцыя заводу зразумела, які "прэзэнт" яны паслалі "айцу народаў".

На шчасьце дырэкцыі, прэзэнт захаваўся сярод іншых падарункаў. І трапіць да І.В.Сталіна пры жыцьці ня змог.

Тых, хто распрацоўваў тэхналёгію стратэгічнага матэрыялу, хутка паслалі да шпіталю. Замежныя лекі, мазі не давалі вынікаў.

І тады як лекар выступіў сам хворы Арый Міхайлавіч Акошнікаў. Ён прапанаваў злучыць талій у цяжкарастваральныя элемэнты, якія б выводзіліся праз прадукты перапрацоўкі нырак.

Прапанова дала вынікі. Усе хворыя вылекаваліся. Праз год недзяржаўным шляхам Арый Міхайлавіч дасылае тэхналёгію лекаў да Амэрыкі. Пра захад савецкага вучонага маўчыць увесь сьвет. Дзякуючы асабістаму ўмяшальніцтву А.М.Акошнікава іншыя людзі, што працавалі з таліем, пазьбеглі страшнай хваробы.

Сёньня пад N 547 і дагэтуль у цэнтральным архіве на паліцах з моранага дуба знаходзіцца дарунак казахстанскіх мэталургаў. На жаль, а можа, на шчасьце, ён быў дасланы "правадыру Усіх народаў" пасьля яго сьмерці.

**З.Д.**

**Вы, напэўна, не аднойчы чулі пра эспэранта. А калі не, дык я раскажу. Эспэранта - гэта міжнародная мова, якую стварыў у канцы мінулага стагоддзя ўрач па прафэсіі Лазар Замэнгоф, які некаторы час жыў у Горадні. Мова гэтая - самая лёгкая для вывучэньня з усіх моваў сьвету: мае толькі 16 правілаў і ніводнага выключэньня, па гучаньню найбольш нагадвае італьянскую мову. Калі вы вырашыце вывучыць яе, дык шмат часу на гэта не спатрэбіцца: колькі вам патрэбна год на вывучэньне якой-небудзь замежнай мовы, столькі месяцаў пойдзе на вывучэньне ЭСПЭРАНТА.**

**Слова "эспэранта" перакладаецца як "той, які спадзяецца". Таму эспэрантысты - гэта аптымісты. У Беларусі таксама існуе Асацыяцыя эспэрантыстаў Рэспублікі Беларусь з цэнтрам у Горадні. Пры Асацыяцыі функцыянуе гарадзкі клюб "Эспэро", які, у асноўным, складаецца з моладзі.**

**Кожны месяц па ўсім сьвеце ладзяцца розныя мэрапрыемствы эспэрантыстаў, прысьвечаныя самым розным накірункам чалавечай дзейнасьці. Так, у красавіку гэтага года ў Нідэрландах праходзіла міжнародная сустрэча эспэрантыстаў, прысьвечаная Вялікадню. У гэты час нешта падобнае адбывалася і ў Англіі. 1-8 траўня ў Стразбургу праходзіла сусьветная эспэранта-сустрэча моладзі, а з 12 па 15 траўня ў нямецкім горадзе Брандэнбургу - сустрэча эспэрантыстаў-літаратараў. 23-30 ліпеня ў Паўднёвай Карэі, у Седле пройдзе Унівэрсальны Кангрэс, у якім могуць прыняць удзел усе жадаючыя, вядома, хто валодае эспэранта. А з 30 ліпеня па 6 жніўня таксама ў Карэі, у горадзе Х'онан адбудзецца міжнародны юнацкі кангрэс, тэма якога - "Які народ, такая й культура". Для тых, хто вырашыў ехаць, а таксама для тых, хто яшчэ ня можа гэта зрабіць, я хацеў бы расказаць трошкі пра Карэю, карэйскі народ, яго звычкі й традыцыі. Прапаную пераклад з аднаго з эспэранта-журналаў, які называецца "Консіге", што значыць "сьцісла".**

## ЯКІ НАРОД?

Карэя зьяўляецца краінай кантрастаў і супярэчнасьцяў. Мінулае й сучаснае, традыцыйнае й новае, абыякавасьць і ўзаемадапамога існуюць і ўзаемадзейнічаюць паміж сабой у Карэі.. Аднак гэтыя кантрасты не выклікаюць асаблівых праблемаў. Наадварот, карэйцы, здаецца, ставяцца да кантрастаў даволі пазытыўна. Гэта вядзе да таго, што яны выбіраюць, нарэшце, шлях спакою й адаптацыі замест варожасьці й дысгармоніі. Вось некалькі характэрных рысаў карэйцаў.

## САЦЫЯЛЬНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

У час рабочага дня карэйцы пераважна апранаюцца ў адзеньне заходняга стылю, амаль немагчыма ўбачыць, каб карэйскі служачы насіў бязрукаўку альбо джынсы. Яны добра ведаюць, што форменны касьцюм ня вельмі зручны, але яны ня маюць альтэрнатывы, бо карэйскі этыкет патрабуе карэктнага апрананьня.

Калі карэец фармальна каго-небудзь вітае, то трошкі нахіляецца наперад. Кітайцы й японцы, наадварот, робяць гэта вельмі яскрава. Калі карэйцы размаўляюць паміж сабой, то не глядзяць, як мы, адзін аднаму ў вочы. У іх прынята глядзець у кропку, якая знаходзіцца вышэй носа, на лобнай частцы галавы, альбо глядзець нават пад ногі, што, вядома, не зьяўляецца знакам іх слабасьці.

Слова "сябар" у Карэі набывае трошкі іншы, я б сказаў, інтымны сэнс. Сябрам карэйцы называюць толькі самага блізкага, добра знаёмага чалавека. Ім стаць цяжка, але калі гэта адбываецца, дык сяброўства застаецца назаўсёды. Акрамя гэтага, сябру дазваляецца наведваць ваш дом у любы час і без ніякага запрашэньня й папярэдняга дазволу. Найбольш ужывальнымі прозьвішчамі карэйцаў зьяўляюцца Кім, Лі і Пак.Карэйцы звычайна вельмі адчувальныя да крытыкі, галоўным чынам, ад іншаземцаў. Таму найлепш пазьбягаць прамой крытыкі ў іх адрас.

## КАРЭЙСКІ ДОМ

Ад звычайнага дому заходняга тыпу карэйскія адрозьніваюцца сваёй пэйзажнасьцю. Да таго ж, у кожным доме ёсьць пакой, які заўсёды адкрыты для гасьцей. Яго называюць "сарангнанг", што па-беларуску значыць - "гасьцёўня". Там людзі зьбіраюцца звычайна, каб паразмаўляць, паесьці, выпіць або нават пераначаваць. Калі вас запрасілі ў карэйскі дом, перад тым, як пераступіць парог, незалежна ад таго, пакрыта падлога дыванам ці не, - не забудзьцеся зьняць абутак, але лічыцца дрэнным паказваць свае голыя ногі (ступні), таму нядрэнна будзе, калі захопіце з сабой пару чыстых шкарпэтак.

## ЕСЬЦІ І ПІЦЬ ПА-КАРЭЙСКУ

Галоўнай ежай у карэйцаў зьяўляецца рыс, іншым разам перамешаны з зялёным рысам або фасоляю, часам з некаторымі іншымі абмежаванымі дабаўкамі. Усё гэта яны ядуць з фарфоравага ці мэталічнага посуду. Прыладамі для ежы служаць мэталічная лыжка й пара мэталічных палачак. Ежу карэйцы ўжываюць не асобна, а разам і ў адзін і той жа час. Яны ня любяць, калі вы падносіце да рота талерку або міску.

Традыцыйна яны ядуць на невысокім, пакрытым лакам стале. Калі зьбіраюцца есьці, сядаюць на подушкі, якія кладуцца на падлогу (ондол - па-карэйску). Падлога зьяўляецца ўнікальнай падагравальнай сістэмай, у якой цыркулюе пар. Дзякуючы гэтаму карэйцы любяць спаць на падлозе. Летам падагравальная сістэма адключаецца.

Найбольш вядомай карэйскай ежай зьяўляецца кімх'і - квашаная капуста, прыпраўленая чырвоным перцам, часныком і некаторымі іншымі рэчамі.

Алкагольныя напоі ў Карэі - вельмі папулярныя. Але як ня дзіўна, карэйцы ніколі не напіваюцца. Моцныя алкагольныя напоі карэйцы не ўжываюць без "анью", якое атрымліваюць, перамешваючы арэхі, сушаную рыбу, а таксама садавіну або гародніну.

## КАРЭЙСКАЯ СЬВЯДОМАСЬЦЬ І ГАСЬЦІННАСЬЦЬ

Карэйцы хутчэй могуць пасябраваць, калі даведаюцца, што маюць нешта агульнае паміж сабой, напрыклад, нарадзіліся ў адным і тым жа горадзе, вучыліся ў адной школе або маюць адно хобі. Адчуваньне "аднаго з нас" адыгрывае важную ролю падчас зносін паміж людзьмі ў Карэі. Яны вельмі часта ўжываюць слова "мы". Так, кажуць, напрыклад, "наша краіна" замест "мая краіна" і "наш дом" замест "мой дом". І для вас будзе незвычайным чуць, калі карэец, знаёмячы вас са сваёй жонкаю, скажа: "Вось наша жонка".

Хаця карэйцы большай часткай пераймалі заходні вобраз жыцьця, усюды ў краіне захавалася павага да ўзросту. Калі вы знаходзіцеся ў грамадзкім транспарце або ў іншым месцы, дзе шмат людзей, ня лічыцца вартым павагі, калі вы селі раней за старэйшага. Калі ж чалавек пэнсійнага ўзросту заходзіць у памяшканьне, дзе ўжо сядзяць людзі, усе маладзейшыя за яго адразу ж устаюць, паказваючы знак павагі да яго і даючы яму месца сесьці.

## АД ВАРОЖАСЬЦІ ДА АДАПТАЦЫІ

Пражыць за мяжой - значыць, набыць вопыт, незалежна ад таго, шмат часу вы там жылі ці не. Таму вельмі важна навучыцца наладжваць зносіны з краінай, дзе жывеш, і з яе людзьмі. Даводзіцца праходзіць шлях ад варожасьці да адаптацыі.

У Карэі абмен падарункамі, гутарка ў цырульні або знаёмства ў публічнай бані зьяўляюцца добрымі намерамі для дасягненьня ўсеагульнай добразычлівасьці. Як і ў Японіі, абмен падарункамі нагадвае цэлую цэрымонію. Іх робяць у дзень Новага Года, у дзень Новага Года па ўсходнім календары, у дзень Х'усёк (прыход восені), у дзень Божага Нараджэньня, а таксама ў час сацыяльных выпадкаў, такіх, напрыклад, як дзень нараджэньня, вясельле ці заканчэньне школы. Звычайна падарункі не адкрываюць перад тым, каму дараць, калі ён толькі сам аб гэтым не папросіць.

**КУРГУН Г.І., старшыня гарадзенскага клюба "ЭСПЭРО".**

**P.S.:** Вучыце эспэранта, й вы адчыніце перад сабой дзьверы ў невядомы да гэтага часу й такі цікавы сьвет.

 

 



# ЗА ВОЛЮ І БАЦЬКАЎШЧЫНУ!

## БАЯВАЯ ПАРТЫЗАНСКАЯ ПРЭСА Ў ПАСЬЛЯВАЕННАЙ БЕЛАРУСІ

**Пасьляваенная Заходняя Беларусь... Што мы ведаем аб ёй? Доўгі час бальшавіцкія ідэёлагі й гісторыкі ў сваіх "творах" клялі й палівалі брудам "банды белорусских буржуазных националистов", якія не дазвалялі працоўным Заходняй Беларусі будаваць "счастливое социалистическое будущее". Неяк сарамліва гэтыя гісторыкі пісалі пра тое, як "доблестные советские чекисты" аж да сярэдзіны 50-х гадоў не маглі зьнішчыць гэтыя самыя "банды". Дык кім жа былі гэтыя "банды" й за што яны змагаліся? Мы паспрабуем сёньня адказаць на гэтыя пытаньні, чытаючы баявую прэсу беларускіх партызанаў.**

Антыбальшавіцкая партызанка на Беларусі зьявілася яшчэ ўлетку 1944 года, калі разам з Чырвонай Арміяй на Беларусь прыйшлі каты з НКВД. Арышты, расстрэлы й дэпартацыі ў Сібір і на поўнач прымусілі дзесяткі тысяч беларускіх сялянаў, інтэлігентаў, вайскоўцаў з беларускае Краёвае Абароны, моладзь з СБМ ісьці ў лясы й ствараць паўстанцкія аддзелы, якія распачыналі барацьбу супраць савецкай улады.

Вясною-летам 1945 года з гэтых аддзелаў была арганізаваная Беларуская Вызваленчая Армія (больш вядомая пад назовам "Чорны Кот"), на чале якой стаяў адзін з лідэраў Беларускай Незалежніцкай Партыі генэрал Міхась Вітушка (падпольны псэўданім "Лось"). Прыкладна з гэтага часу й пачынаюць выходзіць газэты й лістоўкі беларускіх партызанаў.

Першым выданьнем вітушкаўцаў, праўдападобна, быў часопіс "За волю", які выходзіў, паводле сьведчаньня аднаго з партызанаў, "друкам на шаўковай, цянюткай паперы да 84 старонак". Ягоным рэдактарам быў сам М.Вітушка. На працягу ўсяго часу партызанскага змаганьня "За волю" быў ягоным летапісцам і непасрэдным удзельнікам. Яго голас чулі ня толькі беларускія і ўкраінскія партызаны, але й беларускія эмігранты, а праз іх і ўвесь сьвет. Сёньня яго пачулі й мы:

"МЫ ЯШЧЭ ЖЫВЕМ

Трэці раз мы перамаглі бальшавіцка-акупанцкую аблогу й трэці раз засталіся пераможцамі ў няроўным баі, як будзем пераможцамі і ў апошняй бойцы, гонячы маскаля ў Маскву. Вольная беларуская дружына яшчэ дыхае й жыве, а вянок гэройства вакол галавы беларускіх партызанаў, адзіных вольных людзей на Бацькаўшчыне, ужо цяпер зіхаціць вясёлкаю за гэтыя багатыя гэройствам бойкі з акупантам. Крывавячыся ў зацятых баёх, далучаюцца да дарагіх ценяў, палёгшых за волю змагароў, нашыя слаўныя сябры, але беларускія партызаны вытрымалі й вытрымаюць. Вытрымаем мы й гэты раз, хоць лютасьць ворага й кінутыя ім у бокі сілы пераходзілі ўсё дагэтуль бачнае. Нас не перамаглі нават кінутыя ў бой ворагам танкі і самалёты.

...Побач з намі ў гэтай бойцы стаялі й нашыя ўкраінскія ды нямецкія сябры,* і ў найкрытычнейшы момант, калі здавалася, што неба зьмяшалася з зямлёю, мы перамаглі толькі поўным даверам адзін аднаму. І разам з гордасьцю памяці палёгшых героя ў мы атрымліваем гордасьць і за беларускага партызана - народнага ваяку за праўду й волю - агулам.

...Мы ўчора пахавалі сваіх герояў і толькі цяпер выціраем пот з нашых закураных у бойцы твараў, не забываючыся пільна сачыць за ў безпарадку ўцякаючай рэшткай ворага і ўжо рыхтуючыся да пераходу і заняцьця новых становішчаў на новым месцы пастою.

Мы ведаем, што хутка ізноў пачнецца прасьлед нашае групы... і бойка заўсёды знойдзе нас гатовымі да яе..."

**(З перадавіцы "За волю", N 16, 7 лістапада 1949 г.)**

Крыху пазьней пачала выходзіць палітычна-прапагандовая газэта "Да чыну"́. Гэта было цыкластыльнае выданьне "ворагаў народаў", якое выходзіла ня вельмі рэгулярна й рознымі тэхнічнымі сродкамі.

Вельмі папулярным быў "Самастрэл па камуністых" - цыкластыльнае выданьне палітычна-інфармацыйнага зьместу. "Самастрэл" выдаваўся даволі часта і ў непасрэднай блізкасьці партызанскіх становішчаў. Тая перакананасьць і той дух, які ён пашыраў, маглі выклікаць захапленьне й водгук у кожнага сьвядомага беларуса. "Самастрэл" узмацняў веру й паказваў шлях да мэты - незалежнай самабытнай Беларусі:

"Мы, якія тут змагаемся, заўсёды сьведамыя свае мэты, тае самае нязьменнае, як заўсёды, і спосабы барацьбы тыя самыя: змаганьне! Мы верым, што прыдзе дзень, калі вечная пагроза над нашымі галовамі зьнікне й згіне. Хто тады абвесьціць імя Беларусі, Беларусі вольнай і незалежнай? - Яго абвесьціць і адзначыць яе сваёй зброяй сёняшні лесавік-партызан."

Іншы характар мела значная колькасьць непэрыядычных газэт, якія выдаваліся асобнымі партызанскімі аддзеламі. Гэткімі зьяўляюцца: "Лесавік" - газэта Барысаўскага партызанскага батальёна, выходзіла раз на тыдзень; "Наш адказ" і "Інфарматар" - палітычна-інфармацыйныя выданьні. Усе яны былі гектаграфаваныя й выдаваліся накладам у некалькі дзесяткаў паасобнікаў.

"-*PRO MEMORIA*-

Змаганьне за незалежную, самабытную Беларусь, змаганьне за самастойнае жыцьцё нашага народу й краю не заціхае, ня перарываецца ні на хвіліну. Калі дасюлешнімі вынікамі гэтага змаганьня мы змусілі лічыцца з намі ня толькі народы сьвету, але нават і бальшавікоў, дык можам быць задаволенымі, але адначасна павінны быць заўсёды на варце, заўсёды гатовымі да зацятага бою, да бою на жыцьцё і сьмерць з нашым адвечным ворагам маскалём, які б колер ён ня прымаў. Ведае гэта й вораг, а таму ён стала сочыць за намі й падсылае да нас сваіх агэнтаў пад рознымі маскамі і выглядамі. Бальшавіцкія штампы, г.зв. газэты БССР і радыё нязмоўкна апісваюць "добрае, пэўнае, заможнае, культурнае і беларускае жыцьцё", якое цяпер ідзе ў БССР. Так, запраўды, часам нават цяжка зразумець, як гэтыя да немагчымасьці дробныя напады і рознаякія спосабы накіраваньня на дробнай слабасьці чалавека й кіруюцца нейкай пякельнай арганізацыяй. Але гэта ёсьць запраўды, яны працуюць дакладна, бо для сваіх заданьняў школіліся доўга і ўсебакова выбіраючы зброю.

Але мы, сьведамыя свайго жыцьця пад бальшавіцкім ярмом і бачым яго сваімі вачыма, дык у нас хопіць у кожнага вычарпальных фактаў, якімі супрацьбіць ворага:

1. Мэта сталінскага бальшавізму - узгадваць поўнасьцю паслухмянага, нацыянальна мяшанага, поўнасьцю бяспраўнага, ня маючага нічога чалавека-нявольніка, бо толькі гэткая сістэматызаваная двуногая арганізацыя можа надацца Сталіну для зьдзяйсьненьня ягоных плянаў гвалту над сусьветам. Дзеля асягнаньня гэтае мэты ўжываюцца самыя нялюдзкія спосабы, пры гэтым зьнішчэньне й мана між імі як галоўныя прыёмы гэтак-жа нязьменныя, як і бальшавізм.

2. Расказваючы паярэмленым і ўсяму сьвету добра прыдуманую ману, бальшавікі стварылі для абману ўсіх крэатуру з беларускага гаспадарства, зьнішчылі тысячы лепшых сыноў беларускага народу й мільёны беларускіх сялян пагналі ў канцэнтрацыйныя лягеры Сібіры, Поўначы і палячага сонца Караганды. Прыпомнімо сабе гэтыя факты адзін па адным, і нам даволі будзе, каб нязморна змагацца за беларушчыну, каб ісьці наперад адзіна справядлівым шляхам і не аслабнуць у барацьбе."

**("Інфарматар", N 6, 3 жніўня 1948 г.)**

Адзначым яшчэ шэраг выданьняў беларускіх партызанаў: "Да перамогі" - друкаваная газэта ідэялагічна-прапагандовага зьместу, выдаваў Цэнтр Нацыянальных Арганізацыяў.

"За Бацькаўшчыну" - баявое, палітычнае выданьне.

"Душы бальшавіцкую гадзіну" - палітычна-ідэялагічнае выданьне пад кіраўніцтвам намесьніка генэрала Вітушкі, часам выходзіла лацінкаю.

"Вольны селянін" - палітычна-выхаваўчае выданьне цыкластылем, найбольш пашыранае ў Лідчыне.

"Самасад" - гумарыстычна-сатырычная газэта.

"Пад абцасам маскалёў" - выданьне Смаленскага партызанскага аддзелу.

Газэты беларускіх партызанаў выходзілі нягледзячы на цяжкія ўмовы працы партызанаў-журналістых. Ня рэдка, выходзячы з аблогі, партызаны пакідалі друкарскія машыны, фарбы, паперу. Але партызанская прэса не маўчала, пакуль былі сілы, пакуль было ўзяць каму ў рукі зброю.

Акрамя газэт, партызанамі выдаваліся лістоўкі й брашуры:

"Гаворыць лесавік" - гектаграфічная лістоўка на кожную партызанскую акцыю й бальшавіцкія загады й сьвяты;

"За што мы змагаемся" - выйшла некалькі выданьняў друкам і цыкластылем, адно з якіх у друкарні "Витебского рабочего";

"Вам, беларускія эмігранты" - зборнік артыкулаў і лістоў "ад кроўных і сваякоў, у якіх некага няма ў хаце";

"Гадзіна, колькі табе дадзена" - да прамовы М.Лужаніна падчас ягонага аб'езду Беларусі пасьля павароту з працы ў місіі на Захадзе, тры выданьня;

"Праўда аб душыцелях" - пасьля выбараў у Вярхоўны Савет; "Што дае нам бальшавіцкая акупацыя" - некалькі выданьняў;

"Калі будзе вайна" - другое выданьне было выкрыта бальшавікамі ў Гомельскай друкарні й амаль усё зьнішчана;

"Кроў кліча да помсты" - зборнік вершаў;

"Ганіце прэч юдаў" - у сувязі с падасланымі ў лес бальшавіцкімі правакатарамі;

"Чаму выводзяць" - у часе вялікае хвалі дэпартацыяў на поўнач у пустэльні Азіі;

"Ты і мы" - некалькі выданьняў.

КЛІЧЫ З ПАРТЫЗАНСКАЕ ЛІСТОЎКІ НА 1 ТРАЎНЯ 1950 г.:

"Жыве Беларусь - будзеш жыць і ты! Сьмерць Беларусі ёсьць і тваёй сьмерцю. Змаганьне пачатае, і яно не скончыцца, Пакуль беларуская зямля ня будзе Ачышчана ад маскальска-бальшавіцкай нечысьці!"

Партызанамі распаўсюджваліся й плякаты. На адным з іх - на фоне выявы этнаграфічнай мапы Беларусі - узьнятыя да неба рукі, нібы молячыя аб дапамозе, спутаныя вяроўкаю, што цягнецца з усходу й якую трымае вялізны, брудны, валасаты кулак. Пад плякатам надпіс лацінкаю : "Sto ty zrabiu dla vyzvalen'nia Radzimy?"

Другі ведамы нам плякат "Браты, не забывайцеся нас!" быў выдадзены спэцыяльна для беларускіх эмігрантаў.

Гэта толькі невялікая частка беларускіх партызанскіх выданьняў, ведамых нам. Партызан Сяргей К. сцьвярджаў, што ўсяго іх было болей за сотню. Некаторую частку з іх можна знайсьці ў архівах Беларускіх эмігрантаў, якія падтрымлівалі сувязь са змагарамі на Бацькаўшчыне. Праўдападобна, асобныя газэты й лістоўкі захаваліся ў прыватных калекцыях на Беларусі, хаця гэта было больш чым небясьпечна. Асноўная ж частка баявой партызанскай прэсы дагэтуль схаваная ў недасягальных архівах КДБ.

Які ж быў лёс "Чорнага ката"? Ён быў гэткім жа трагічным, як і лёс Украінскай Паўстанцкай Арміі, пацярпеўшай паражэньне ў 1952 г., ці летувіскіх "лясных братоў", спыніўшых у тым жа горадзе арганізаванае супраціўленьне акупантам. Тысячы беларускіх партызанаў загінулі ў баёх, памерлі ад ранаў, былі расстраляныя гэбістамі (у палон бальшавікі бралі толькі аднаго партызана з трох, астатніх двох расстрэльвалі на месцы), загінулі ў сутарэньнях НКГБ ці лягерох. Ня многім удалося трапіць на Захад ці вярнуцца на Бацькаўшчыну з Сібіры ці Поўначы...

Баявая партызанская прэса вяртаецца да нас як напамін аб гераічным дзесяцігадовым змаганьні лепшых сыноў і дачок нашага народу за незалежнасьць Беларусі. Сёньня мы ўспомнім добрым словам тых ахвярных, адважных партызанаў-журналістых, якія чарнілам і крывёю пісалі слаўную, гераічную старонку ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Пакуль што нам няведамыя іх імёны, але нам ведамы іх няскораны змагарскі дух, якога так не стае нам, іх нашчадкам. Ці можам мы ў найкрытычнейшы момант, калі ўжо не хапае сілаў і слабая вера ў перамогу, цьвёрда й рашуча сказаць:

"НАС НЯ ЗЛОМЯЦЬ

Цяжка, немагчыма цяжка. Асабліва калі навокал усё гарыць і ліецца кроў. Калі побач падае твой сябра ад кулі ворага. Цяжка, гэтак цяжка, што здаецца кожнае разуменьне страчаным, бо ты ня можаш ні жыць, ні рухацца спакойна й пэўна. Навошта рабіць пераходы, навошта мяняць месца, навошта наогул вылазіць з нашых сховішчаў? Навошта? Ці ня ўсёроўна, дзе й калі паміраць!

Як зразумела й па-людзку запраўдна ўсё гэта гучыць і як многія сябры вось гэтак і думаюць. Многія, вельмі многія - у нашай ды іншых зямлянках і сховішчах, асабліва ў нашым раёне. А чаму й ня думаць, калі ўсё жыцьцё, абставіны й падзеі самі наклікаюць гэтыя думкі. І ўліцца ў гэтую плыць абыякавасьці лягчэй, чым станавіцца ёй насуперкі й змагацца. Большасьці насельніцтва гэта сталася цяжкім. Слабым, мяккім, нявытрывальным стаўся значны лік нашага народу, які некалі быў слаўнейшым і магутнейшым сярод народаў ня толькі Ўсходняе Эўропы, але й усяго сьвету.

Ці маемо мы права апускаць рукі сёньня? І якраз сёньня, калі яшчэ ня ўсё згублена, і нам, партызанам, якія сталі на варту свайго народу, будаўнікам ягонае будучыні. Мы знаходзімся на роднай зямлі, мы даем падтрымку нашых братоў па гарадох і вёсках.

Не, ніколі не! Нашая воля, якой поўная нашая кроў і цела не далі й не дадуць нас на загубу. Злыя вятры праносяцца над намі сёньня, яшчэ зьлейшыя ня раз пранясуцца. Град рубіць, сячэ нам твары. Але мы ня будзем хавацца за ўзьнятыя каўняры, мы ня схілімся ў горб, хаваючыся ад яго. Мы ня будзем сумаваць і плакаць надарэмна! Мы пастаўлялі й паставім свой твар усім сіверам, мы выпрастаем свае сьпіны і ў сьветлай радасьці змаганьня за родны народ, за вольны родны край перапусьцім праз сябе ўсе разьюшаныя злыя сілы бальшавізму, хай сабе ўсё навакол гіне. Бо мы пабудуем сваю собскую дзяржаву, сваю вольную й прыгожую Беларусь. Мы, беларускія партызаны, вытрымаем!

Нас ня зламалі й ня зломяць ніякія ліхія буры-гураганы!"

**(З перадавіцы "Самастрэла", N 7 за 1949 г.)**

**Падрыхтаваў да друку**
**Сяргей ЁРШ, г.Слонім.**

---

* Маюцца на ўвазе немцы-уцекачы з савецкіх лягераў для ваеннапалонных. Пасьля некаторага тэрміну службы ў Беларускай Вызваленчай Арміі ім дапамагалі трапіць у Нямеччыну.

 



**ПАНЯДЗЕЛАК, 20.06 ЧЭРВЕНЯ**

**Беларускае тэлебачанне**

11.30 "Па дарогах "Слова аб палку Ігаравым", д/ф 12.00 Пад купалам Сусвету 12.10 Дзелавы веснік 12.25 "Я жыву, каб убачыць Вас". Кампазіцыя па вершах беларускіх паэтаў 13.00 Пяць хвілін на жарты 13.05 Мультфільмы 13.30 Навіны 15.45 Педагагічны экран 16.00 Навіны (Брэст) 16.15 Мультфільмы 16.50 Навіны 17.00 "Непрыручаная птушка", д/ф 17.25 Навіны Бі-бі-сі 18.00 "Кола лёсу", кінанарыс 18.10 "Вялікая Айчынная", с. 4 19.00 Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты 19.40 "Ахоўваецца дзяржавай", д/ф 20.00 Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты 20.40 Калыханка 21.00 Панарама 21.35 Спартыўны тэлекур'ер 21.55 Пяць хвілін на жарты 22.00 "Тэлесябрына" 22.05 "Джанга", м/ф 23.40 Кантакт 23.45 НІКа 23.55 Надвор'е 0.05 Пад купалам Сусвету

**Канал "Астанкіна"**

16.40 Кампанія "Мір" 17.00 Навіны 17.25 "Грэцыя: так жыць можна" 17.55, 20.35 Надвор'е 18.00 Гадзіна пік 18.25 "Дзікая ружа" 18.55 Лідэр 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.45 Імгненні вялікага футбола 21.00 Прэс-клуб 22.20 Замак мастацтваў 22.55 Футбол. Бразілія — Расія. У перапынку (23.50) — Навіны 0.55 Прэс-экспрэс

**Канал "Расія"**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі 6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца... 6.30 Формула-730 7.00 Час дзелавых людзей 7.30 Сам сабе рэжысёр 8.00 Навіны Эй-бі-сі 8.25 Чароўны куфэрачак 8.35 Ваша права 8.50 Ранішні канцэрт 9.05 "Беражыце цётку Шуру", д/ф 9.35 Тэлегазета 9.40 Сялянскае пытанне 15.20 Бізнес у Расіі 15.50 Там-там навіны 16.05 Новая лінія 16.20 "Музей ля Растральных калон" 16.50 Выратаванне 911 17.45 Прыгоды ваўчэра 18.05 Свята кожны дзень 18.25 Рэтра-шлягер. Ю. Візбар 19.25 Падрабязнасці 19.35 Футбол. Камерун — Швецыя 21.30 Без рэтушы 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Зоркі гавораць 22.50 Спартыўная карусель 22.55 Прыватная калекцыя

**Санкт-Пецярбург**

16.50 Загадка старой казкі 17.40 Неігравое кіно, жыві! 18.10 Вялікі фестываль 18.30, 21.45 Інфарм ТБ 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.05 "Каміла, ці Нераскрытыя тайны", м/ф (Італія), с. 1 20.00 "Нядзеля ў панядзелак", спектакль 20.45 Тэлеслужба бяспекі 20.55 Свет мастацтва 21.25 Тэлемагазін 21.30 Будні 22.00 Спартыўныя навіны 22.10 Ваш стыль 22.20 "Не гасне лампада дабра"

**АЎТОРАК, 21.06 ЧЭРВЕНЯ**

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі 8.10 Эканаміст 8.20 Надвор'е 8.30 "Да вас, сучаснікі мае...", д/ф, ч. 1 9.30 Пад купалам Сусвету 9.40 Пяць хвілін на жарты 9.45 "Джанга", м/ф (Італія) 11.20 "Нов і К"-топ-10 12.20 "Асляня-агароднік", мульт 12.35 "Хор", д/ф 13.30 Навіны 15.50 Эканаміст 16.00 Навіны (Віцебск) 16.15 Мультфільмы 16.50 Навіны 17.00 Палітычны калейдаскоп 17.25 Навіны Бі-бі-сі 18.05 Зачытайце маё пісьмо... 18.10 "Вялікая Айчынная", с. 5 19.00 Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты 19.40 "Партрэт на фоне замка", д/ф 20.00 Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты 20.40 Калыханка 21.00 Панарама 21.35 "Сенсацыя" 22.35 Пяць хвілін на жарты 22.40 Кантакт 22.45 "Сямейная парачка" 23.45 НІКа 23.55 Надвор'е 0.05 Пад купалам Сусвету 0.15 Футбол. Беларусь — Грузія

**Канал "Астанкіна"**

5.15 Ранішняя размінка 5.30 Раніца 7.45 Агляд рынку нерухомасці 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.45 Навіны 8.20 "Дзікая ружа" 9.10 Футбол. Бразілія — Расія 11.50, 0.55 Прэс-экспрэс 11.20 Што? Дзе? Калі? 14.25 Прадпрымальнік 15.00 Справа 15.10 "Прыгоды Тома Соера" 15.40 Паміж намі, дзяўчынкамі... 16.00 Рок-урок 16.40 Планета 17.25 Яшчэ раз аб прыватызацыі 17.35 Тэхнадром 17.45 Знак пытанная 17.55, 20.35 Надвор'е 18.00 Гадзіна пік 18.25 "Дзікая ружа" 18.55 Тэма 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.45 З першых рук 20.55 "Вікторыя". Фестываль салдацкай песні 22.10 X Міжнародны конкурс імя П. І. Чайкоўскага 22.30 Аўта-шоу 22.55 Футбол. Германія — Іспанія. У перапынку (23.50) — Імгненні вялікага футбола

**Канал "Расія"**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі 6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца... 6.30 Формула-730 7.00 Час дзелавых людзей 7.30 Чароўны куфэрачак 7.40 Навіны Эй-бі-сі 8.10 Футбол. Галандыя — Саудаўская Аравія 15.20 Мульці-пульці 15.50 Там-там навіны 16.05 Тэлегазета 16.10 Новая лінія 16.55 М-трэст 17.10 Гаспадар 17.40 Свята кожны дзень 17.50 Рубяжы 18.05 Майстар 19.25 Футбол. Аргенціна — Грэцыя. У перапынку — Падрабязнасці 21.25 "Санта-Барбара" 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Зоркі гавораць 22.50 Спартыўная карусель 22.55 ЭКП 23.05 Новы ілюзіён. У. Набокаў 23.35 Званы Расіі

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ 12.10 Чароўная лінія 12.25 "Нямецкая хваля" 13.00 Хуткая дапамога 13.30 "Каміла, ці Нераскрытыя тайны", м/ф (Італія), с. 2 14.20 Тэлемагазін 16.50 Рознакаляровы сабака 17.10 Дзецям пра зверанят 17.30 "Фантадром", мульт 17.40 Ваша права 18.10 Вялікі фестываль 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.05 "Каміла, ці Нераскрытыя тайны", с. 2 19.55 "Мікола Пусен", т/ф 20.30 "Два волаты", мульт 20.45 Тэлеслужба бяспекі 20.55 "Песні Беранжэ". Э. Хіль 21.25 Тэлемагазін 21.30 Будні 22.00 Спартыўныя навіны 22.10 Ваш стыль 22.20 "Семнаццаць імгненняў вясны", с. 1

**СЕРАДА, 22.06 ЧЭРВЕНЯ**

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі 8.10 Пяць хвілін на жарты 8.15 Надвор'е 8.25 "Да вас, сучаснікі мае...", д/ф, ч. 2 9.35 Пад купалам Сусвету 9.45 "Сенсацыя" 10.45 "Поле памяці", д/ф 12.30 "Гэта ўсё..." Ю. Шаўчук і "ДДТ" 13.15 "Чароўная торбачка", мульт 13.30 Навіны 15.00 Відзьма-нявідзьма 16.00 Навіны (Гомель) 16.15 "Пяць кольцаў над Гомелем". Спартыўны фестываль 16.45 Навіны 16.55 "Ліберал-дэмакраты: хто яны" 17.25 Навіны Бі-бі-сі 18.00 "Вялікая Айчынная", с. 6 18.50 Дзесяць хвілін плюс стагоддзе 19.00 "Крок": "Пяць зорак" 19.55 Дыялог. Віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў А. Патупа 20.25 Пяць хвілін на жарты 20.30 Кантакт 20.35 Калыханка 21.00 Панарама 21.35 "Сенсацыя" 22.35 Пад купалам Сусвету 22.45 Тэлевізійны Дом кіно. У. Гасцюхін і А. Міхайлаў 23.05 "Тэлесябрына" 23.35 НІКа 23.45 Надвор'е

**Канал "Астанкіна"**

5.15 Ранішняя размінка 5.30 Раніца 7.45 Агляд рынку нерухомасці 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00 Навіны 8.20 Вясёлыя ноткі 8.40 "Дзікая ружа" 9.05 Футбол. Германія — Іспанія 10.10 Клуб падарожнікаў 11.20, 0.55 Прэс-экспрэс 11.30 Футбол. Нігерыя — Балгарыя 13.10 Сёмае неба 14.25 Прадпрымальнік 15.00 Дзелавы веснік 15.10 Ты помніць, таварыш... 15.55 Вам, ветэраны 16.10 "Лятаючы дом" 16.40 Кампанія "Мір" 17.25 Мініяцюра 17.45 Азбука ўласніка 17.55, 20.35 Надвор'е 18.00 Гадзіна пік 18.25 "Дзікая ружа" 18.55 Акцёрскія франтавыя брыгады 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.45 Маналог 20.55 "Салдаты", м/ф 22.55 Футбол. Румынія — Швейцарыя. У перапынку (23.50) — Навіны

**Канал "Расія"**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі 6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца... 6.30 Формула-730 7.00 Час дзелавых людзей 7.30 Добрай раніцы 8.00 Навіны Эй-бі-сі 8.30 Ранішні канцэрт 8.45 "Санта-Барбара" 9.35 Тэлегазета 9.40 Сялянскае пытанне 15.20 Там-там навіны 15.35 "Гісторыя адной карціны", нарыс 15.45 Новая лінія 16.30 "Жанчыны свету" 17.00 "22 чэрвеня, 1941", д/ф 18.00 Свята кожны дзень 18.10 L-клуб 19.25 Падрабязнасці 19.35 "Санта-Барбара" 20.25 Фільм-прэм'ер 20.40 Тэлетэатр Расіі. В. Астаф'еў. "Адзін сярод Расіі", прэм'ера 21.20 На палітычным Алімпе 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Зоркі гавораць 22.50 Спартыўная карусель 22.55 "Невядомыя старонкі з жыцця разведчыка", м/ф

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ 12.10 Чароўная лінія 12.25 Падарожжа па Усходу 12.45 Кірмаш вакансій 13.00 Хуткая дапамога 13.30 "Каміла, ці Нераскрытыя тайны", с. 3 14.20 "Вогнік", мульт 14.45 "Дзяўчынка шукае бацьку", м/ф 16.10 "Вышэйшая проба", т/ф 16.35 "Яны пакояцца ў чужой зямлі", т/ф 17.00 Крыжыкі-нулікі 17.40 "Сто бед адзіноты" 18.10 Вялікі фестываль 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.05 "Каміла, ці Нераскрытыя тайны", с. 3 19.55 Спявае А. Разенбаўм 20.45 Тэлеслужба бяспекі 20.55 Іканастас вайны 21.10 "Парад зброі", мульт 21.25 Тэлемагазін 21.30 Будні 22.00 Спартыўныя навіны 22.10 Ваш стыль 22.20 "Семнаццаць імгненняў вясны", с. 2

**ЧАЦВЕР, 23.06**

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі 8.10 "Ансамбль танца Рэспублікі Беларусь" 8.50 "Паэт і муза". П. Мядзёлка 9.20 "Прыгоды капітана Урунгеля", мульт 9.40 "Беларускі вакзал", м/ф 11.20 "Беларускія напевы", канцэрт 11.50 "Дзяўчынка шукае бацьку, м/ф 12.25 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Канцэрт майстроў мастацтваў 13.30 Інфармацыйны выпуск 13.40 Старты студэнтаў 14.10 "Лёгкі хлеб", мульт 14.20 "Слова" П. Прануза 14.35 Паэтычная гасцёўня 15.05 "Шырока вядомыя ў вузкіх колах..." Беларуская анімацыя 15.40 Радавод 16.35 Інфармацыйны выпуск 16.45 "Усе мы родам з дзяцінства", тэлефестываль юных талентаў 18.10 "Вялікая Айчынная", с. 7 19.00 Канцэрт майстроў мастацтваў 19.45 "І пакуль на зямлі не пагасне каханне...", канцэрт 20.05 Кінанарыс 20.15 Медінфа 20.25 Пяць хвілін на жарты 20.30 Кантакт 20.35 Калыханка 21.00 Панарама 21.35 "Сенсацыя", заключная серыя 22.35 Пад купалам Сусвету 22.45 НІКа 22.55 Надвор'е 23.05 "Крок"

**Канал "Астанкіна"**

5.15 Ранішняя размінка 5.30 Раніца 7.45 Агляд рынку нерухомасці 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.50 Навіны 8.20 Паглядзі, паслухай... 8.40 "Дзікая ружа" 9.05 "Жыццё заапаркаў" 9.40 Мультфільм 9.50 Тэніс. Уімблдон. 10.50, 0.55 Прэс-экспрэс 11.20 "Джыўс і Вустэр" 14.25 Прадпрымальнік 14.55 Як дабіцца поспеху 15.10 "Хто там?", м/ф 15.30 Джэм 16.00 ...Да 16 і старэйшым 16.40 За кулісамі 17.25 Загадка СБ 17.35 X Міжнародны конкурс імя П. І. Чайкоўскага 17.55, 20.35 Надвор'е 18.00 Гадзіна пік 18.25 "Дзікая ружа" 18.55 "Белы папугай" 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.45 Лато "Мільён" 21.10 "Пекінская бландзінка", м/ф (Францыя) 22.55 Футбол. Італія—Нарвегія. У перапынку (23.50) — Імгненні вялікага футбола

**Канал "Расія"**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі 6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца... 6.30 Формула-730 7.00 Час дзелавых людзей 7.30 Відэапаэзія. Г. Ахматава, ч. 1 7.40 Навіны Эй-бі-сі 8.10 Футбол. ЗША—Калумбія 10.10 "Санта-Барбара" 15.20 Студыя "Рост" 15.50 Там-там навіны 16.05 Відэапаэзія. Г. Ахматава, ч. 2 16.15 Хроніка нацыянальнай палітыкі 17.00 Будні 17.45 Свята кожны дзень 17.55 У свеце аўта- і мотаспорту 18.25 Свая гульня 19.25 Падрабязнасці 19.35 "Санта-Барбара" 20.25 Пяць хвілін пра добрае жыццё 20.30 Шостае пачуццё 21.00 Звычайная справа 21.20 Вечар у кабарэ "Бязглуздзіца" 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Зоркі гавораць 22.50 Спартыўная карусель 22.55 ЭКП 23.30 Ад Баха да Гершвіна

**Санкт-Пецярбург**

16.50 Тра-ля-ля гісторыі 17.05 Там, дзе жыве Павуціныч 17.20 Дзецям пра зверанят 17.35 Тэлемагазін 17.40 Чалавек на зямлі 18.10 Вялікі фестываль 18.30, 21.45 Інфарм ТБ 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.02 "Мы вясёлыя, шчаслівыя, таленавітыя", м/ф 20.35 Тэлеслужба бяспекі 20.45 Блеф-клуб 21.25 Тэлемагазін 21.30 Па ўсёй Расіі 22.00 Спартыўныя навіны 22.10 Ваш стыль 22.20 Рок-галактыка

**ПЯТНІЦА, 24.06**

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі 8.10 Эканамікст 8.20 Надвор'е 8.30 "Сенсацыя" 9.30 Пяць хвілін на жарты 9.35 Пад купалам Сусвету 9.45 "Сенсацыя" 12.10 Старты студэнтаў 12.40 Дзесяць хвілін плюс стагоддзе 12.50 Майстэрня 13.30 Навіны 15.05 Падлетак і закон 15.50 Эканамікст 16.00 Навіны (Магілёў) 16.15 "Памяці тых, хто не вярнуўся". Скульптар Ю. Паўлаў 16.25 Навіны 16.35 "Вялікая Айчынная", с. 8 17.25 Навіны Бі-бі-сі 18.00 Футбол. "Дынама" — "Фандок" 19.50 У добры час. Прыём у ВНУ. Прамая лінія 20.30 "Тэлесябрына" 20.40 Калыханка 21.00 Панарама 21.35 Пяць хвілін на жарты 21.40 "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета", м/ф 23.05 Рэйтынг 23.20 Кантакт 23.25 НІКа 23.40 Надвор'е 23.50 Пад купалам Сусвету

**Канал "Астанкіна"**

5.15 Ранішняя размінка 5.30 Раніца 7.45 Новы старт 8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00 Навіны 8.20 Сарока 8.40 "Гарачаў і іншыя" 9.10 Дапамажы сабе сам 9.40 "Салодкая рэпа", мульт 9.50 Тэніс. Уімблдон 10.50, 0.55 Прэс-экспрэс 11.20 "Джыўс і Вустэр" 14.25 Прадпрымальнік 14.55 Бізнес-клас 15.10 "Хітрыкі гарэзы", м/ф 16.20 "Кот у каўпаку", мульт 16.30 За кулісамі 16.50 Азбука ўласніка 17.25 Чалавек і закон 17.55, 20.35 Надвор'е 18.00 Рэха тыдня 18.20 "Гарачаў і іншыя" 18.50 Поле цедаў 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.45 Чалавек тыдня 21.05 "Дэн Огаст" 22.05 "Погляд" 22.55 Футбол. Бразілія—Камерун. У перапынку (23.50) — Навіны

**Канал "Расія"**

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі 6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца... 6.30 Формула-730 7.00 Час дзелавых людзей 7.30 Паехалі 7.40 Навіны Эй-бі-сі 8.10 Футбол. Карэя—Балівія 10.10 "Санта-Барбара" 15.20 Студыя "Рост" 15.50 Там-там навіны 16.05 Ваенны кур'ер 16.20 Новая лінія 16.50 Дысней па пятніцах 17.45 Свята кожны дзень 17.55 Ніхто не забыты 18.00 Музыка ўсіх пакаленняў 18.30 Я — лідэр 19.25 Футбол. Мексіка—Ірландыя. У перапынку — Падрабязнасці 21.30 Поўня 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Зоркі гавораць 22.50 Спартыўная карусель 22.55 З заЛы Вярхоўнага суда РФ 23.05 "Ілюзія смерці", м/ф

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ 12.10 Чароўная лінія 12.25 "Нямецкая хваля" 13.00 Хуткая дапамога 13.30 "Сярэбраная ніць" 14.00 Сем сланоў 16.45 Музыка — дзецям 16.55 Барадулінскія байкі, ч. 1 17.30 "Фантадром-2. Соль", мульт 17.40 "Г. Ахматава. Ліісткі з дзённіка", т/ф 18.10 Вялікі фестываль 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.05 "Іголка", м/ф 20.35 "Зімні эцюд", мульт 20.45 Тэлеслужба бяспекі 20.55 "Вось які я адмоўны", т/ф 21.25 Тэлемагазін 21.30 Будні 22.00 Спартыўныя навіны 22.20 "Амстэрдамская справа", м/ф (ЗША)

**СУБОТА, 25.06**

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі 8.10 Пяць хвілін на жарты 8.15 "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета", м/ф 9.40 Пад купалам Сусвету 9.50 Паказвае Гомель 10.50 "Сталіца" 11.10 "Мне не хапае вас, настаўнік..." Памяці Л. Мухарынскай 12.00 "Я родам з дзяцінства", м/ф 13.40 Дзесяць запаведзяў 14.10 Расказы пра кікбоксінг 14.40 Планета людзей 15.10 Наталі 15.40 Чэмпіянат свету па матагонках 16.40 Папараць-кветка 17.40 "Так гэта было..." 18.05 Мультсерыял 18.35 "Пачатак". Мінскі абласны тэатр у Маладзечне 19.30 "Нов і К"-топ-10 20.30 Пяць хвілін на жарты 20.35 Калыханка 21.00 Панарама 21.35 "Адзін раз схлусіўшы", м/ф 23.10 Пад купалам сусвету 23.20 НІКа 23.30 "Каскад" 23.45 Відзьма-нявідзьма

**Канал "Астанкіна"**

6.30 Ранішняя размінка 6.45 Суботняя раніца дзелавога чалавека 7.15 У свеце матораў 7.45 Слова пастыра 8.00 "Марафон-15" 8.30 Кампанія "Мір" 9.55 Ранішняя пошта 10.25 Я — жанчына 10.55 Навіны культуры 11.05 Смак 11.20 "Героі-пасынкі", д/ф 12.15 Знак пытання 13.05 Пераадоленне 13.35 Лабірынт 14.00, 23.05 Навіны 14.20 Тайны Старой плошчы 15.00 "Кэтвізл", м/ф (Англія), с. 3 15.30 Брама таямніцы 16.15 У свеце жывёл 16.55 X Міжнародны конкурс імя П. І. Чайкоўскага 17.15 Каханне з першага погляду 17.55 Да і пасля... 18.45 "Б'юлаленд", тэлесерыял, с. 1 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Навіны плюс 20.35, 23.15 Надвор'е 20.45 "Камісар", с. 3 21.45 Што? Дзе? Калі? 23.20 Праграма "Х" 23.30 Футбол. Саудаўская Аравія—Марока

**Канал "Расія"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.20 Весткі 7.25 Студыя "Рост" 7.55 Парламенцкі тыдзень 8.25 "Вам і не снілася", м/ф 9.55 Тэлеэрудыт 10.00 Зваротны адрас 10.50 Футбол. Швецыя—Расія 12.40 Сялянскае пытанне 13.20 Здарова жывеш 13.35 Мір і вайна 14.05 Казырная дама 14.35 "Расія маладая", д/ф, с. 7 15.30 Рэпарцёр 15.45 Футбол без межаў 16.40 Тэлеэрудыт 16.45 "К-2": "Зоркі Амерыкі" 17.15 Ніхто не забыты 17.20 Свята кожны дзень 17.30 Вуснамі дзіцяці 18.00 "Аншлаг" і К 19.25 Футбол. Бельгія—Галандыя 21.30 Праграма "А" 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Зоркі гавораць 22.50 Спартыўная карусель 22.55 Футбол. Аргенціна—Нігерыя

**Санкт-Пецярбург**

8.45 Чароўная лінія 9.00 "Амстэрдамская справа", м/ф (ЗША) 10.40 "О-ля-ля" 11.10 "Вер-невер", мульт 11.30 В. Шэкспір. "Карыялан", спектакль 13.00 Хуткая дапамога 13.30 Тэледоктар 13.45 "Гран-па ў белую ноч", муз. фільм 14.50 Паласаты рэйс "форума" 15.30 "Марыяна", мульт (Францыя) 16.00 Сёння і штодзённа 16.20 "Фантадром-3. Пажар", мульт 16.30 П. Гэбрыэл у Афінах 17.25 Храм 18.10 Яялікі фестываль 18.30, 21.45 Інфарм ТБ 18.55 экспрэс-кіно 19.10 "Уік-энд з дэтэктывам". Прэм'ера тэлегульні 20.00 "Сумаваць не трэба", муз. фільм 20.35 "Семнаццаць імгненняў вясны", с. 3 22.00 Ваш стыль 22.10 "Уік-энд з дэтэктывам" 22.25 Спявае С. Захараў

**НЯДЗЕЛЯ, 26.06**

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі 8.10 Пяць хвілін на жарты 8.15 Пад купалам Сусвету 8.25 Слова да чалавека 8.55 Мультсерыял 9.25 "Адзін раз схлусіўшы", м/ф 11.00 Нядзельная пропаведзь 11.10 "Арт-клуб". Свята ў Рускім тэатры, ч. 1 12.10 MTV. Лепшыя хіты 12.40 "Праспект". Інфармацыйна-аналітычная праграма 13.05 Свята ў Рускім тэатры, ч. 2 14.05 Вяскоўцы 14.35 Асілак 15.30 Тэлекрама 15.40 "Добры дзень, я ваша цётка!", м/ф 17.20 "Гінес-шоу" 17.50 Інтэрв'ю В. Быкава 18.20 Дзелавы веснік 18.35 Мультсерыял 19.05 Радавод 20.00 Панарама 20.35 Пяць хвілін на жарты 20.40 Калыханка 21.00 "Да смерці", м/ф (Італія) 22.45 Пад купалам Сусвету 22.55 Мотабол

**Канал "Астанкіна"**

6.45 Ранішняя размінка 7.00 Гадзіна сілы духу 8.00 Марафон-15 8.30 Раным-рана 9.00 Палігон 9.30 "Спортлато" 9.45 Пакуль усе дома 10.15 Ранішняя зорка 11.05 Тэніс. Уімблдон 11.45 "Кантрольная для дарослых" 12.30 "Рускій міръ" 13.00 "Піф і Геркулес" 13.10 "Падводная адысея каманды Кусто" 14.00, 17.15, 23.00 Навіны 14.20 Кампанія "Мір" 15.00 Жывое дрэва рамёстваў 15.05 Амерыка з М. Таратутам 15.35 Шпаргалка 15.40 Музыка ў эфіры 16.25 Клуб падарожнікаў 17.30 "Кот Фелікс", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды" 18.25 Бамонд 18.40 Надвор'е 18.45 Залаты шлягер 19.25 Футбол. Балгарыя—Грэцыя. У перапынку (20.20) — Імгненні вялікага футбола 21.30 Нядзеля 22.15 Тэлелоцыя 22.25 "Ціхі спакой", м/ф (ЗША) 23.10 Сёння 23.50 Футбол. Швейцарыя—Калумбія

**Канал "Расія"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.20 Весткі 7.25 "Усе твае дочкі", д/ф 7.55 Студыя "Рост" 8.25 Добрай раніцы, Еўропа 8.55 Лепшыя гульні НБА 9.55 Аты-баты... 10.25 "Дэ-факта" 10.55 "Дрэнны добры чалавек", м/ф 12.40 Шэсць сотак 13.20 Не высечы... 13.35 "Згаслая зорка?" І. Радніна 14.05 Песні рускай арміі 14.35 У свеце жывёл 15.30 "Элія Казан, аўтсайдэр", д/ф 16.45 Каробка перадач 17.00 Чароўны свет Дыснея 18.00 Свята кожны дзень 18.15 Маскі-шоу 19.25 "Лялечка", м/ф 21.45 У Ксюшы 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Зоркі гавораць 22.50 Спартыўная карусель 22.55 Футбол. ЗША—Румынія

**Санкт-Пецярбург**

8.55 "Гаючае слова" 9.30 "Клемянціна", мульт (Францыя), с. 3 10.00 Экспрэс-кіно 10.15 "Кінаўспаміны. Канец вайны", т/ф (Францыя) 11.00 Нядзельны лабірынт 12.30 "У імя ўваскрэсення", т/ф 12.40 "Знаёмцеся: Даніла, Цімафей, Весяліна" 13.00 Чароўны свет марыянетак 13.45 Этнасы зямлі 14.15 Гістарычны альманах 15.00 "Дзеці і зоркі" 16.05 Балет А. Мелікава "Легенда пра каханне" 18.05 Крымінальнае дасье 18.30 Інфарм ТБ 18.55 Без назвы 19.15 Аранж ТБ "Гэгстэр" 19.30 "Прысвечаны", м/ф 21.40 Ваш стыль 21.50 Адамаў яблык 21.50 Стрытбол



# АПОШНЯЯ СТАРОНКА



## ЦЭЙСАЎСКАЯ ОПТЫКА НА ЎЗБРАЕНЬНІ ГАРАДЗЕНСКІХ ЛЕКАРАЎ

Больш цеснымі становяцца сувязі паміж гарадзенскімі афтальмолагамі й нямецкімі фірмамі, што выпускаюць разнастайнае мікрахірургічнае абсталяваньне. Нядаўна ад фірмы Карл-Цэйс Йена гарадзенцы атрымалі чатыры электронных мікраскопы, мікрахірургічны інструмэнтарый і матэр'ялы для накладаньня швоў.

Галоўны афтальмолаг вобласьці М.В.Логаш распавёў наступнае:"Мікраскопаў, што даслалі з фірмы Карл-Цэйс Йена, хапіла нам, каб абсталяваць апэрацыйны блёк на чатыры хірургічныя сталы. Дзякуючы гэтаму за 5 месяцаў мы прааперыравалі 453 хворых."

На здымку: М.В.Логаш праводзіць абсьледаваньне пацыенткі з дапамогай нямецкага мікраскопа.

Г.АСТРОЎСКІ.
Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.

## АПЭРАЦЫЯ ПА ЗЬМЯНЕНЬНЮ ПОЛУ

Калектыў хірургаў Менскага вабласнога клінічнага шпіталю пад кіраўніцтвам урача Ўладзіміра Падгайскага распрацаваў тэхналёгію трансплантацыі мужчынскіх палавых ворганаў іншаму пацыенту.

Як зазначыў сам У.Падгайскі, гэта выключна новы накірунак у беларускай хірургіі. Дзякуючы вынаходніцтву хворым людзям на сындром адмаўленьня ад полу зьявілася выдатная магчымасьць без турботаў памяняць грамадзянскі пол па мэдыка-псыхалагічным паказчыкам.

Трое хворых нядаўна былі праапэрыраваныя. Аднаго з іх, што прайшоў усе этапы хірургічнай зьмены полу, лекары дэманстравалі на паседжаньні рэспубліканскага хірургічнага таварыства.

(з.д.)

## ШВЭДЫ - ЧЭМПІЁНЫ

Поўнай катастрофай закончылася для расейскай зборні па гандболу фінальная гульня за золата на першым чэмпіянаце Эўропы. Расейцы, за якіх выступае й выхаванец беларускага гандболу А.Антаневіч, не змаглі супрацьстаяць зладжанай ва ўсіх кампанэнтах гульні зборні Швэцыі. Лік 34:21 на карысьць апошніх яскрава сьведчыць пра суадносіны сілаў на пляцоўцы.

Што тычыцца беларускай зборні, то нашы хлопцы занялі восьмае месца, уступіўшы ў апошняй гульні зборні Вугоршчыны - 24:28.

Дарэчы, у матчы з вэнграмі нашы гулялі дублям.

Праз год зборня Беларусі будзе дэбютаваць на чэмпіянаце сьвету. І, як зазначыў капітан каманды А.Парашчанка, усе легіянеры й маладыя гульцы далі слова джэнтэльмэна трэнеру зборні С.Мірановічу ўзяць удзел у чэмпіянаце сьвету. Плянуецца, што да таго часу залякуюць траўмы лепшы галеадор зборні Аляксандр Тучкін і разыгрываючы Георг Сьвірыдэнка.

## ПРОЙГРЫШ У РАШАЮЧАЙ ГУЛЬНІ

Няўдала згулялі апошнюю гульню ў падгрупе супраць зборні Харватыі гандбалісты Беларусі. Уступіўшы з лікам 21:29, нашы хлопцы ў выніку апынуліся на 4 месцы й не змаглі авансаваць да паўфіналу.

Цяпер беларускім гульцам прыйдзецца аспрэчваць сёмае месца ў паядынку з гандбалістамі Вугоршчыны, якое дае права ў наступным сэзоне ўзяць удзел на фінале чэмпіянату сьвету.

## "ДЫНАМА": ТРЭЦЯЯ КАРАНАЦЫЯ

За два туры да фінішу нацыянальнага чэмпіянату Беларусі вызначыўся пераможца - футбольны клюб "Дынама" (Менск). Гэта стала вядома пасьля таго, як дынамаўцы ва ўпартай барацьбе з лікам 3:1 перамаглі ФК "Маладэчна". Лёс срэбраных медалёў таксама сумневу не выклікае, бо "Дынама-93" ужо даўно цьвёрда стаіць на другой прыступцы. А вось з "бронзай" справы складаныя. Тут два прэтэндэнты: "Днепр" (Магілёў) і КІМ (Віцебск), якія маюць роўныя шанцы авалодаць трэцім па вартасьці камплектам медалёў.

Усё вырашыць апошні тур, які адбудзецца ў суботу, 18 чэрвеня. КІМ гуляе ў Менску з "Дынама-93", а "Днепр" на сваім стадыёне прымае рэчыцкі "Ведрыч". У гэты ж дзень гарадзенскі "Нёман" сустрэнецца з трохразовым чэмпіёнам Беларусі-менскім "Дынама". Цікава, ці здолее мінулагодні ўладальнік Кубка краіны зноў даць "бой"?

## У БЭРЛІНЕ "РЫТМ" ПАВАЖАЮЦЬ

Па запрашэньню хакэйнага клюба "Бэрлін" з чатырохдзённым візытам у Нямеччыне пабывала жаночая каманда "Рытм". Гарадзенскія "летнія" хакэісткі правялі чатыры таварыскія сустрэчы, у дзьвюх з якіх дабіліся перамогі.

Пачынаў "Рытм" з паражэньняў: ад ХК "Бэрлін", двойчы прайграўшы з лікам 3:0. Па словах галоўнага трэнера Алы Грэсь, дзяўчаты пасьля 18-гадзіннай дарогі ня здолелі адразу набраць выдатную форму, да таго ж сапернік на самой справе вельмі моцны. А вось з бэрлінскім "Цэлендорфам-88" гарадзенкі "расправіліся" як належыць - 3:0. Вызначыліся Марына Русіна, Сьвятлана Карэліна й Вольга Апалайка. Дабіўся посьпеху "Рытм" і ў матчы з "Шарлотэнбургам" - 2:1 (Марына Русіна - двойчы).

## 30 ДЗЁН ЛЯ ТЭЛЕЭКРАНАЎ!

17 чэрвеня ў Чыкага адбудзецца афіцыйная цэрэмонія адкрыцьця чэмпіянату сьвету па футболу. 24 мацнейшыя каманды планеты на працягу 30 дзён спрачаюцца за залаты Кубак ФІФА. Сярод іх, вядома, няма беларускай зборні. Але цікаўнасьць да чэмпіянату, што будзе трансьлявацца па маскоўскіх і польскіх тэлеканалах, у нас велізарная. Перш за ўсё таму, што ўбачым "зорак" у мацнейшых камандах з лепшай гульнёй.

Як сьцьвярджаюць розныя прагнозы, найбольш шанцаў на перамогу мае Бразілія й Нямеччына. Называюць таксама Аргенціну, Калюмбію, Галяндыю. І амаль ніхто са спэцыялістаў на "ставіць" на расейскую зборню, якая на самой справе ўяўляе сабой зборню СНД. Час і гульня пакажуць, наколькі сьцьвярджэньні адпавядаюць рэчаіснасьці.

Для аматараў гульні N1 нагадаю, што толькі чатыром беларускім футбалістам удалося выступаць на чэмпіянатах сьвету - гэта Эдуарду Малафееву (1966 год, Англія), Сяргею Бароўскаму (1982 год, Гішпанія), Сяргею Алейнікаву (1986 год, Мэксіка; 1990 год, Італія) і Андрэю Зыгмантовічу (1990 год, Італія). Зрэшты, гэты спіс можна прадоўжыць, назваўшы яшчэ аднаго гульца - Сяргея Гарлуковіча, які не толькі атрымаў футбольную адукацыю ў Беларусі, але й нарадзіўся на Гарадзеншчыне, у вёсцы Баруны Ашмянскага раёна. Першы раз С.Гарлуковіч удзельнічаў у італьянскім чэмпіянаце як абаронца зборні СССР, а цяпер выступіць у складзе Расейскай каманды ў ЗША.

Ю.Д.

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**Мінулы тыдзень стаў рэкордным на крымінальным календары Гарадзеншчыны. Зарэгістравана ажно 161 злачынства і 30 здарэньняў. Найбольш "ураджайнай" была субота - 11 чэрвеня. У гэты дзень зьдзейснена 31 злачынства, у іх ліку забойства, 5 цялесных пашкоджаньняў, 6 крадзяжоў дзяржаўнай і 9 - асабістай маёмасьці, 2 махлярствы й столькі ж угонаў транспарту.**

**За тыдзень зьдзейснена 12 дарожных здарэньняў, у якіх два чалавекі загінулі й 10 параненa. Яшчэ двое сталі ахвярамі агню.**

ГОРАДНЯ

На тры з паловай тысячы даляраў "абулі" аўтуладальніка з Польшчы трое мясцовых "кідалаў". Пачатак зьдзелкі нічым не напамінаў аб злачынных намерах: адпаведнасьць дакумэнтаў, наведваньне мытні, ДАІ, праверкарахунка...

А вось фінал... Калі на вуліцы Маладзёжнай двое пакупнікоў надоўга выйшлі з легкавіка, паляк пачаў нэрвавацца й таксама выйшаў з машыны, каб паглядзець, дзе ж яны падзеліся. І тады трэці, што застаўся ў салёне, хуценька перасеў за руль, і "Фіат-гром" разам з дакумэнтамі зьнік за вуглом.

* * *

Незвычайную заяву прынёс у Кастрычніцкі РАУС 68-гадовы гарадзенец, які заявіў, што родная дачка разам са сваім "шурыкам" пад прымусам напаіла яго гарэлкай, а потым яны забралі ў пацярпелага 300 тысячаў рублёў, 105 даляраў і зьніклі.

У міліцыю стары заявіў праз тыдзень, бо разьлічваў, што "чада" крыху "пагудзе" й хутка вернецца дахаты. Але, відаць, дарэмна чакаў, бо з такімі грашыма гульня ў "літрбол" зацягнецца.

* * *

"А ў нас нічога не прапала",- пасьпяшаўся заявіць міліцыянтам старшыня калгасу імя Заслонава Іўеўскага раёна, калі тыя зьявіліся на парозе калгаснай канторы. Давялося выставіць на старшынёўскі стол 10 каністраў з ядамі. Прыглядзеўся старшыня разам са сваімі галоўнымі спэцыялістамі: "Нашыя! А дзе ж вы іх узялі?"

А "узялі" злодзея супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС вабласнога цэнтра, куды іўеўскі "чаўнок" па дамоўленасьці даставіў мясцовым камэрсантам каштоўны двухмільённы груз, які два тыдні таму(!) украў з калгаснага складу.

Так што давялося каністрам замест Польшчы ехаць наноў на Іўеўшчыну, а "экспэдытару" - вяртацца на радзіму ў "варанку".

АШМЯНЫ

Ох, і "закруціў млын" у лесе недалёка ад вёскі Юршаны 47-гадовы мясцовы дзяцюк.

Будавалі мужыкі хлявок. Як і павялося, - у канцы работы выпілі. На пяцёх - дзевяць бутэлек. Як і бывае ў такіх выпадках, нешта не падзялілі. І пайшло, і паехала...

Схапіў мясцовы "Пол-Пот" сякеру й пачаў "валіць" земляжоў, нібы дрэвы. Аднаго, другога, ды ўсё па шыі, па галаве. Фінал трагічны: адзін у труне, другі - у рэанімацыі, а сам забойца, дарэчы, раней судзімы, зьбег. Хутчэй за ўсё, у суседнюю дзяржаву.

* * *

Ідуць гады, мяняюцца прырода, людзі, іх звычкі. Памятаеце знакаміты твор А.Чэхава "Зламысьнік" і яго гэроя, які скручваў для рыбацкай вуды гайкі з чыгуначных рэльсаў? Дык вось, куды зараз Дзянісу Рыгоравічу да цяперашніх зламысьнікаў...

Днямі яны ля вёскі Балтруп скралі самі рэльсы, ажно 50 штук, што належылі торфабрыкэтнаму заводу.

СМАРГОНЬ

З некаторай пары чорная кошка прабегла паміж немаладымі ўжо суседзямі. Нават да суда справа дайшла, але й там не змаглі прымірыць распаленага 50-гадовага смаргонца, які зайшоў да суседзяў і ўдарыў гаспадыню нажом у грудзі. У адказ муж пацярпелай "аддзякаваў" таго малатком па галаве.

Зараз сусед і суседка зноў побач, але ў... шпіталі.

Г.СЫСОЙ.

МАГІЛЁЎ

29 траўня ва ўстанове УЖ-15117 УУС Магілёўскага аблвыканкама пры праверцы зафіксавана адсутнасьць вязьня Цімошыка. Ён быў асуджаны 9 верасьня летась вайсковым трыбуналам Берасьцейскага гарнізона да трох гадоў пазбаўленьня свабоды за дэзэртырства й крадзёж. Незразумела, як ён зьнік з тэрыторыі турмы: ахоўныя прыстасаваньні не парушаны.

СІМ.

## Гарадзенская Вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны, Беларусі, час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабыткі нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы й культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'ядноўвацца пад штандарам Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне". Уступайце ў БНФ!

Пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.



"ПАГОНЯ"
РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйнёная друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 2488.
Тыраж 3651 паасобнік.